— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

29 ЛІСТАПАДА 1996 г. № 48 (3872) Кошт 2 500 руб.

## НАШАМУ ДАІЛЬНАМУ АПАРАТУ КУЛЬТУРА НЕПАТРЭБНА...

***Аляксандр УРБАНОВІЧ: "Змаганне з відавочнымі прарэхамі ў бюджэце дало б магчымасць нашай згалелай дзяржаве пачаць расплачвацца са сваімі грамадзянамі па ўкладах у Ашчадным банку. Але, мабыць, не ў гэтым нашая зглленая дзяржава бачыць сваю асноўную функцыю. Замест выканання сваіх грашовых абавязацельстваў перад насельніцтвам згалелая дзяржава робіць грандыёзныя з'езды наменклатуршчыкаў усіх узроўняў, рэгулярныя рэферэндумы па пытаннях, якія пад сілу толькі спецыялістам высокай і рэдкай кваліфікацыі..."***

**5**

## ГЭТА НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКАРБ

***У "Бліц-крытыцы" абмяркоўваюцца "Дзённікі" Максіма Танка***

**7**

## СПАКУШЭННЕ

***Апавяданне Барыса ПЯТРОВІЧА***

**8—9, 14—15**

## АБ ТВОРЧЫХ САЮЗАХ

***Праект Закона Рэспублікі Беларусь, прыняты ў першым чытанні, вынесены Камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры на абмеркаванне грамадскасці.***

**13—14**

## ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО 2 ДНІ!

*Дарагія чытачы, да канца падпісной кампаніі на першае паўгоддзе 1997 года засталося ўсяго 2 дні. Не забыліся на гэта ў сваіх паўсядзённых клопатах? Нагадваем і шчыра раім пабываць на пошце і аформіць падпіску на наш і ваш "ЛіМ". Паспяшайцеся: засталося ж усяго два дні — сённяшні і заўтрашні.*

*Кошт падпіскі на "ЛіМ" на адзін месяц — **10000 рублёў;** на квартал — **30000 рублёў;** на паўгоддзе — **60000 рублёў.***

**Індэкс — ранейшы: 63856.**

# КОНКУРС ПРАЙШОЎ. НЯХАЙ ЖЫВЕ НАСТУПНЫ!

***Пра першы Міжнародны конкурс піяністаў (афіцыйна: "Фартэпіяна. Мінск-96") згадваць-гаварыць будуць доўга.***

***Яшчэ не аціхлі святочныя эмоцыі. Яшчэ помняцца спрэчкі ўсхваляваных "балельшчыкаў". І разгублена-здзіўленыя позіркі журы: на праслухоўваннях І тура — поўная зала! І азарт публікі падчас ІІ ды ІІІ тураў — у пошуках вольнага лапіка хаця б ля сценкі, дзе можна было б пастаяць, паслухаць.***

***І ўжо складаюцца прагнозы. Які будзе наплыў канкурсантаў на мінскі фартэпіянны турнір праз тры гады? Ці дададуцца да яго з часам спаборніцтвы маладых музыкантаў па іншых спецыяльнасцях? Калі лаўрэат І прэміі Андрэй Сікорскі пераедзе з Масквы, дзе ён працуе некалькі гадоў пасля заканчэння кансерваторыі, у родны Мінск, дзе ў яго — бацькоўскі дом, родны ліцэй, выдатны педагог — Юры Гільдзюк...***

***Наш няштатны карэспандэнт пагутарыў з аўтарытэтнымі спецыялістамі, якія працавалі ў складзе міжнароднага журы конкурсу — загадчыцай кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай акадэміі музыкі дацэнтам Зояй Качарскай і прафесарам акадэміі Валянцінай Рахленкай — і занатаваў меркаванні ды ўражанні сваіх суразмоўніц.***

*Лаўрэат І прэміі Андрэй СІКОРСКІ (Расія).*

*Дыпламант конкурсу Андрэй ШАБАЛА (Украіна).*

*Лаўрэат ІІ прэміі Іосіф СЯРГЕЙ (Беларусь).*

**З. К.** Пра ўзровень конкурсных патрабаванняў магу сказаць, што піяністычная падрыхтаванасць канкурсантаў да ўдзелу ў І туры мусіла выявіцца ў выкананні двух віртуозных эцюдаў, класічнай ці рамантычнай п'есы і сучаснага твора. "Рознакаляровая" праграма! (Дарэчы, выкананне п'есы кампазітара краіны, якую прадстаўляў канкурсант, было адным з самых яркіх і цікавых момантаў І тура). Яна дазваляла ўявіць сабе ўзровень выканаўцаў як музыкантаў, яна прадстаўляла іх з розных бакоў.

Вольная праграма на ІІ туры характарызавала густавыя асаблівасці ўдзельнікаў. Некаторыя хаваліся за музыкай аднаго стылю, што выглядала крыху аднапланава. Праграму можна скласці вельмі добра і цікава. Па тым, як яна складзена, можна меркаваць пра валоданне рэпертуарам ці, наадварот, пра неваладанне. Кожны мог выконваць тое, што хацеў. Беларускія ўдзельнікі выглядалі вельмі добра, і пры ўсёй агульнасці нашай фартэпіяннай выканальніцкай школы кожны з іх захаваў сваю індывідуальнасць.

Лаўрэат І прэміі Андрэй Сікорскі — дарэчы, таксама выхаванец нашай школы. Ён скончыў музычны ліцэй пры Акадэміі музыкі. І таму яго "прафесійныя карані" тут у нас, на Беларусі. І той факт, што ён перамог менавіта на гэтым конкурсе, здаецца мне, вельмі сімвалічны. Вельмі таленавіты, добра прафесійна аснашчаны выканаўца, з ужо сфарміраванымі поглядамі і манерай інтэрпрэтацыі твораў розных кампазітараў.

Лаўрэат ІІ прэміі Іосіф Сяргей, яшчэ не так даўно таксама навучэнец таго ж ліцэя, прыцягнуў да сябе ўвагу як тонкі інтэрпрэтатар музыкі Равэля. Прафесар Каця Колева, якая прадстаўляла ў журы Францыю, з прыемнасцю гэта адзначыла. Яго парывістая і рамантычная манера выканання не магла нікога не ўразіць.

**В. Р.** А лаўрэат ІІІ прэміі Тамара Санікідзе з Грузіі звярнула на сябе ўвагу яшчэ на І туры, бліскуча выканаўшы эцюд "Званочкі" Ферэнца Ліста. Сапраўды, гэта былі менавіта званочкі, а не званы, як даволі часта атрымліваецца. Выкананне Першага канцэрта Чайкоўскага Андрэем Сікорскім вызначылася яркай выразнасцю, а Тамарай Санікідзе — большай лірычнасцю. Экспрэсіўнага Сікорскага параўноўваць з кім-небудзь проста немагчыма. Кожны з эпізодаў выкананых ім твораў меў у сабе зарад экспрэсіі. Самыя складаныя пасажы ён прапускаў праз музычны слых, не пакідаючы іх без кантролю.

Дыпламант конкурсу Вадзім Гацко (Беларусь) — піяніст з вельмі добрымі выканальніцкімі магчымасцямі. Яго цвёрдасць і мужнасць праявіліся ў фінале падчас выканання 3-га канцэрта Рахманінава. Яшчэ адзін наш дыпламант — яркі піяніст віртуознага напрамку Сяргей Я. Смірноў.

*(Працяг на стар. 3)*



## КОЛА ДЗЁН

***Лімаўскае "Кола дзён" не першы год звыкла "коціцца" ад пятніцы да пятніцы, запыняючыся на падзеях і фактах найперш грамадска-палітычнага жыцця краіны, якія становяцца намінацыямі нашага тыдня. Само сабою, тыдзень на тыдзень не прыпадае. Адзін — імклівы і бурлівы, другі — сцішаны і марудлівы, і гэтыя адрозненні больш-менш выразна фіксуе, занатоўвае на гэтай балонцы чарговы абарот "Кола".***

***На схіле ж восені тыдні панесліся наўскапыт, а "тэмпература" падзей і калізій у Беларусі няўхільна падымалася, расла, прытым ужо нават не ад тыдня да тыдня, а — з дня ў дзень. І вось дасягнула сама што ні ёсць "гарачкі". Апошні тыдзень лістапада, слотная, як зазвычай, няўтульная і журботная пара перадзім'я выбухнула такім напалам выкрутлівасці, хлусні, цынізму, несумленнасці, беспардоннасці і фальшыўства, што нармальнаму чалавеку, звычайнаму, так бы мовіць, абываце́лю стала непамысна. Яшчэ б! Візіты высокіх расійскіх гасцей, доўгія начныя перамовы-змовы, ранішняя, а мо яшчэ і начная, бо нацямку, згода, гвалт і выкручванне рук у парламенце, адмена ўказаў і ўкрыжаванне толькі што нібыта дасягнутай згоды, млявае галасаванне (прынамсі, на выбарчых участках у Мінску) у нядзелю і эйфарыя лічбаў, ажно да 98,5 працэнта, нібы з часоў крывавага Язэпа, у панядзелак і аўторак, расчляненне Вярхоўнага Савета, амаль па-маякоўскаму, калі "адна палавіна — тут, а другая — там", адкліканне подпісаў з Канстытуцыйнага суда, быццам той подпіс — шкарпэтка, якую можна нацягнуць на нагу і тут жа скінуць, няўцерпнае, проста-такі гончае "фармаванне" Палаты прадстаўнікоў, беганіна ў Авальную залу па новых падатлівых — "жыць застанешся, жыццё даражэй", зацвярджэнне і "урачыстае падпісанне" новай канстытуцыі...***

***І ўсё гэта — пад бясконцы і паўсюдны лямант пра законнасць, усенародны давер і нечуваную нідзе і ніколі ва ўсім свеце перамогу — Божа, як і сапраўды вытрываць гэта "беднаму хрэсцьяніну"!***

***І ўсё гэта — з-за прыхамаці аднаго чалавека, якога ахапіў нясцерпны корць неабмежаванай улады!***

***"Кола" наша спатыкнулася, забуксавала. Акрэслівалася адзіная намінацыя на тыдзень — ганьба...***

***Дзе паратунак? Дзе апірышча, прытулак спакутаванай, збалелай, зняважанай душы?***

***Вядома ж, у Вялікага Купалы. Толькі ён адзін можа яшчэ ўратаваць нас і вывесці з пустэчы "да сонца, да зор".***

***Толькі ён. Наш Прарок. Наш Бог.***

***Наш праўдзівы Бацька.***

***Чытайма Купалу!***

***Ратуймася Купалам!***

Янка КУПАЛА

### ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

**Стаім мы перад будучыняй нашай**
**І ўсё варожым, сочым ейны ход...**
**Ці ўскрэснем мы, душою ўпаўшы, звяўшы,**
**Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...**

**Сягоння мы жывём і ўдзень мы блудзім**
**Пад маскай, асляпляючаю нас,**
**І што сказаць самім сабе і людзям,**
**Не ведаем, не можам, хоць і час.**

**Заціснуты, задушаны, як мышы**
**Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,**
**Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы**
**Таго свайго, што наша ад вякоў.**

**Пакрыўленыя колісь нашы душы**
**Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;**
**Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,**
**А хтось, а штось і мучыць і пячэ.**

**Цябе чакаем, будучыні нейкай,**
**Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,**
**І гінем марна пад чужой апекай,**
**Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.**

**А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі**
**Засеў за наш бяседны, сытны стол**
**І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,**
**А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.**

**Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела**
**І так нам высмактала з сэрца сок,**
**Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела**
**Не смеем, стоптаныя на пясок.**

**Там чутна, Беларусь! Там — Незалежнасць!**
**А там — "Паўстань праклятцем..." Ну, а мы?**
**Мы ў страху... дум кругня... разбежнасць...**
**Без толку крыллем лопаем, як цьмы.**

**О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..**
**І слухаем і нюхаем тут, там:**
**Які павеяў вецер на загоны, —**
**Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?**

**Аграбленыя з гонару й кашулі,**
**З свайго прыпынку выгнаныя вон,**
**Мы дзякуем, што торбы апранулі**
**На нас ды з нашых нітак-валакон.**

**З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,**
**Брыдзём, паўзём у свет — скрозь неўпапад.**
**І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,**
**Што мы — не мы, што нехта вінават...**

**І так жывём, сябе саміх не знаўшы,**
**Учора, сёння лазім між канаў...**
**Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай**
**Навек залом праклятьі заламаў?**

**Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны,**
**І не пакінем біцца з кута ў кут?**
**Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —**
**Кліч бураломны: вызваленне з пут?!**

*1922 г.*

Беларускі шлях

# КОЛЬКІ СЛОЎ НА ДАЛЬНЮЮ ДАРОГУ

Ты за капіталізм ці за сацыялізм? Здавалася б, рытарычнае пытанне, якое патанула ў сённяшніх палітычных баталіях, аднак пэўнага адказу на яго не адбылося за ўсе 10 год "галоснасці" і яе наступстваў. Адны спрабуюць вынайсці гібрыд "рынкавага бальшавізму", другія шукаюць сацыялізм у скандынаўскіх краінах, трэція — абвяшчаюць савецкі лад крыху скрыўленым, з "дэфармаваным тварам", але сацыялізмам, які ні ў якім разе не перакрэслівае камуністычную дактрыну і магчымасць новага, больш "чыстага" эксперыменту. Па іх меркаванні з таго вопыту трэба толькі выкінуць некаторых укланістаў-перагібшчыкаў (па густу — Гарбачова, Хрушчова, Сталіна), і ўсё пойдзе на лад, а справа Маркса—Леніна—Брэжнева заблішчыць, як новая патэльня. Але калі да "выкідвання" падысці прынцыпова, то прыйдзецца або выкінуць усіх, або не чапаць нікога, бо ідэалогія і практыка камунізму — такі непарыўны ланцужок, што кожнае звяно яго лагічна працягвае папярэдняе. Не выключэнне тут і блізняты-класікі, Маркс з Энгельсам, філасофія якіх у пэўнай меры абумовіла далейшы ход падзей.

Першы памылковы (ці нават заганны) пастулат марксізму — ідэя аб класавай барацьбе як аб галоўным рухавіку прагрэсу і змены гістарычных фармацый. Па логіцы Маркса, рабаўладальніцкі лад павінны былі знішчыць рабы, феадальны — сяляне, а буржуазны — пралетарыі. Але відавочна, што гэта не так. Больш таго — кожная з гэтых сацыяльных пар не можа існаваць без свайго антаганіста, у тым ліку і класічны пралетарый, які пасля ліквідацыі буржуазіі з "баявога атрада" ператвараецца ў шэрую бяспраўную масу рабоў, што паслухмяна будуюць вавілонскую вежу камунізму. Сапраўдны ж гістарычны прагрэс адбываецца не ў выніку "перамогі" адной з антаганістычных сіл, а пры нараджэнні новай, трэцяй сілы, якая нясе іншыя ідэі, праблемы, супярэчнасці.

Другая памылка, што выцякае з першай, палягае ў тым, што марксізм прыняў за аксіёму прынцып існавання грамадства як суровай барацьбы, як бязлітаснай вайны на вынішчэнне ворагаў. Ён і не дапускаў магчымасці грамадзянскай згоды, узаемавыгаднага класавага супрацоўніцтва, шляху сацыяльнай эвалюцыі без татальных гістарычных катаклізмаў. Камунізм адпачатку сцвердзіў маральную перавагу адной часткі грамадства (пралетарыяў) над усімі іншымі, загадзя выдаўшы індульгенцыю на знішчэнне ўсіх "эксплуататараў". Гэты сакральны прынцып паднаўляўся і творча пераасэнсоўваўся на працягу ўсяго камуністычнага будаўніцтва. На практыцы аказалася, што знішчыць толькі "буржуяў" недастаткова, туды ж трэба адправіць і чынавенства, і духавенства, і кулакоў, і былых сяброў-апартуністаў, і шмат іншых "чуждых элементов". Апафеозам прынцыпу "камуністычнай барацьбы" стаў час, калі ліквідацыі падлягаў кожны, хто думаў не ва унісон з "генеральнай лініяй" ці самім "Генеральным Камуністам". Шлях вельмі заканамерны, дыялектычна наканаваны і... тупіковы, бо вядзе да пастаяннага "адсячэння" лепшых, найбольш здольных і рухомых частак грамадства, да росквіту люмпенскай, ураўнілаўскай псіхалогіі і панавання прымітыўных сацыяльных інстынктаў.

Такім чынам, камуністычная дактрына, нават ва ўмовах велізарных людскіх і матэрыяльных рэсурсаў Расійскай імперыі, даказала сваю самаедскую сутнасць, няздольнасць да самаразвіцця і гістарычнага прагрэсу. Відавочна, што любыя спробы ўзнавіць яе (у тым ліку і ў выглядзе калгаснага беларускага аўтарытарызму) асуджаны на правал. Для Беларусі, нягледзячы на цяжар постсавецкай спадчыны і дэфармацыі нацыянальнай свядомасці, патрэбна іншая мадэль развіцця, якую я назваў бы ідэяй салідарнага грамадства".

Любое грамадства будзе жыццястойкім і эфектыўным, калі яго нешта яднае, салідарызуе. З аднаго боку, гэта могуць быць гістарычныя карані, традыцыі ці міфы, а з другога — магутная вера, футурыстычная ідэя ці нават прыгожая утопія. Як чалавек падобны струне, якая гучыць толькі напятай паміж мінулым і будучым, так і грамадства — ажывае і расце, маючы добрыя падмуркі і ясныя планы.

Першая ўмова "салідарнага грамадства" — пакінуць камуністычную тэрміналогію і бальшавіцкую сацыяльную практыку. Бо класічны пралетарый у нас знік у 20-я, сапраўдны селянін — у 30-я гады, і цяпер мы маем большую патрэбу ў праграмістах, менеджэрах і камп'ютэрах, чым у качагарах, даярках і дыктатуры пралетарыяту. Ёсць немалая патрэба і ў сваіх "капіталістах", бо лепшых арганізатараў эканамічнага прагрэсу, чым бізнесмены, гісторыя пакуль не вынайшла. Старыя ж падзелы на "класы" і "праслойкі", што мелі мэтай стравіць і знішчыць некаторыя з іх, — таксама бальшавіцкі архаізм. Галоўным сёння мусіць быць падзел на асобнага чалавека, які роўны перад законам незалежна ад паходжання і прафесіі.

Для салідарнага грамадства карысныя і прыдатныя ўсе людзі, але ніхто не мае права ўзвышаць ці абсалютызаваць сваю ролю. Як адзінаму арганізму патрэбны ногі і рукі, сэрца і галава, так і грамадству патрэбны сяляне і рабочыя, прадпрымальнікі і творцы. І не дай бог зноў пачнецца адсячэнне "непатрэбных" ці "чужых" частак. Такое грамадства ніколі не стане ні эфектыўным, ні справядлівым. Бо сапраўдная справядлівасць не тады, калі "хоць па кроплі, але ўсім", а тады, калі кожнаму як мага больш, хай і не пароўну. Гэта становіцца магчымым толькі ў эфектыўнай, дынамічна развітой супольнасці, да якой ніяк не аднясеш закасцянелую дагматычную сістэму сацыялізму.

Яшчэ адна якасць "салідарнага грамадства" — жыццястойкасць. Яна забяспечваецца "вектарам прагрэсу" — сацыяльнай арыентацыяй на больш працавітых, здольных, таленавітых, скіраванасцю агульнага інтарэсу да вышэйшых матэрыяльных і духоўных стандартаў. Імкненне да лепшага, больш якаснага і дасканалага, магчыма не толькі дзякуючы канкурэнцыі, але і "дыфузіі" між рознымі сацыяльнымі групамі, адсутнасці жорсткіх каставых рамак і перашкод. Менавіта сучасныя заходнія мадэлі народаўладдзя бліжэй стаяць да такога ідэалу, а прававыя дэмакратычныя краіны дэманструюць эфектыўнасць, жыццястойкасць і дынамізм.

Вядома, прынцыпы "салідарнага грамадства" здаюцца сёння недасягальнай утопіяй на фоне нашай палітычнай канфрантацыі ды сацыяльнага развалу. На Захадзе, дзе да гэтых прынцыпаў ішлі многія дзесяцігоддзі, і то няма абсалютнай гармоніі (бо "канчатковая" ідылія існуе хіба што ў казках). Аднак там эвалюцыйна склаўся так званы "сярэдні клас", які мацуе-"салідарызуе" ўсё грамадства, з'яўляецца яго эканамічным і духоўным балансірам, што ўраўнаважвае рэзкія "рэвалюцыйныя" штуршкі. У нас жа соцыум вельмі палярны, бадай, нават аднапалюсны, бо "сярэдні клас" (не кажучы ўжо пра эліту) у шмат разоў мізэрнейшы за масы "пакрыўджаных і нішчых", і скрануць гэтую цёмную сілу ў бок стваральнай дзейнасці можна, бадай, толькі ідэалагічнымі сродкамі — праз свабоду інфармацыі, адукацыю, асвету і г. д. Такі, відаць, характар беларусаў, што матэрыяльныя (ці "шкурніцкія") інтарэсы ідуць пасля палітычных, інтэлектуальных, духоўных. Нацыя адвечных рамантыкаў, самотных паэтаў і "бурапенных" рэтраградаў. І ўсё ж эканоміка возьме сваё, і менавіта яна будзе вызначальным фактарам у структурызацыі нашага грамадства. Калі эканоміка застанецца мафіёзна-дзяржаўнай, посткамуністычнай, то і грамадства будзе крымінальна-таталітарным, калі ж яна стане цывілізаванай, рынкавай, то з'явяцца ўмовы для грамадзянскай салідарнасці і згоды. А пакуль мы спрабуем адправіцца ў шлях, не ведаючы мэты свайго плавання, не асвоіўшы азбукі кіравання і навігацыі. Куды вынесе хваля, да якога берага прыб'е гэтых небарак-беларусаў — невядома нікому...

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*

## АД ПАДКАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І АРХІТЭКТУРЫ

Прэзідыум Падкамітэта па Дзяржаўных прэміях РБ у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі ў галіне літаратуры дадаткова ўключаны творчы калектыў стваральнікаў "Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР" у 15 тамах у саставе: **Анісковіча У. І., Карызны У. І., Лукшы В. А.**

Прадстаўлена выдавецтвам "Юнацтва".

**Адказны сакратар ЖУК В. І.**

Пошта

## ПАДБУХТОРШЧЫКІ

15 лістапада гэтага года ў газеце "Знамя юности" быў надрукаваны артыкул "Русскоязычным петь... запрещено" за подпісам: "Зміцер Марозаў". У артыкуле наш ліцэй — адзіную дзяржаўную ўстанову, што дапамагае і спрыяе адраджэнню беларускай мовы, — абвінавацілі ў дыскрымінацыі рускай мовы, быццам бы абапіраючыся на факты і дыктафонныя запісы. Крыўдна было чытаць гэты "праўдзівы" артыкул!

Адзінае, што адпавядае рэчаіснасці, тое, што "товарищ" Марозаў прыходзіў у ліцэй, каб дамовіцца пра выступленне ў нас некалькіх рок-гуртоў. Далей жа — адкрытая хлусня. І не проста хлусня, а — з несмачнымі намёкамі. Вось ягоны пасажык, напрыклад, на адрас нашага дырэктара: "Он, в свою очередь, "забыв" русский язык (хотя и понимая оный)..." У артыкуле нават згадваецца Дэкларацыя правоў чалавека, у другім артыкуле якой напісана, што кожны чалавек павінен мець усе правы і свабоды, што абвешчаны гэтай дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як, напрыклад, у адносінах расы, полу, мовы...

Ці можна гаварыць пра дыскрымінацыю рускай мовы ў сувязі з тым, што ліцэісты абралі родную беларускую мову сродкам зносін і навучання? Увогуле, праблем з мовамі ў ліцэі няма. Ліцэісты, акрамя беларускай, вывучаюць рускую, іспанскую, польскую, чэшскую, нямецкую, французскую мовы і нават лаціну. Мы проста не хочам, каб знікла наша родная мова. Дык што, за гэта нас трэба ганьбіць і абражаць? А разам з намі і мову? Мне здаецца, ніводная мова не церпіць такіх здзекаў, як беларуская. Ні адзін народ не адмаўляецца ад сваёй мовы, бо менавіта з яе і пачынаецца культура. У якой яшчэ краіне "столькі" рускай мовы, як на Беларусі? (Натуральна, Расію мы не ўлічваем). Так што можна паспрачацца наконт таго, якую мову і дзе дыскрымінуюць.

**Ксенія МУРАЧ, навучэнка Беларускага гуманітарнага ліцэя**

**P. S.** Ліцэй пры БГАКЦ перажывае зараз не лепшыя часы, але мы заўсёды будзем змагацца за сваё добрае імя і годнасць.

**К. М.**

Адгалоскі

# КАМУ СПАТРЭБІЎСЯ ГЭТЫ "ВОПЫТ"?

Напярэдадні "гістарычнага дня" — 24 кастрычніка знайшоў у сваёй паштовай скрынцы брашуру на расійскай мове "інфармацыя пра рэферэндум у пытаннях і адказах", зробленую, мяркуючы па ўсім, у замяталінскім ведамстве. Не абышлося ў ёй і без гісторыі. Гісторыі з тэндэнцыяй, з выпучваннем адных фактаў і замоўчваннем другіх. Напрыклад, сярод краін, якія маюць "багаты вопыт правядзення рэферэндумаў", называецца Германія. Але ні слова аб тым, што пасля вайны немцы адракліся ад гэтага "вопыту", бо ён, набыты падчас праўлення Гітлера, быў надта трагічным як для саміх немцаў, так і для іншых народаў планеты. Менавіта з дапамогай аднаго са сваіх плебісцытаў ашалелы яфрэйтар надаў выгляд законнасці свайму самавольству, якое прывяло да ўзурпацыі ім ўсёй улады ў краіне. Хоць той рэферэндум адбыўся даўным-даўно (у жніўні 1934 года), аднак яго мэты, метады падрыхтоўкі і правядзення можна без нацяжак параўноўваць з галасаваннем, якое толькі што закончылася на Беларусі.

Нашу рэферэндумную гарачку ўсе бачылі на свае вочы. А што рабілася ў такія ж дні 34-га ў Германіі? На жаль, нават 13-томная "Всемирная история" гітлераўскаму плебісцыту ўдзяляе ўсяго некалькі радкоў (дае яму рэзка негатыўную ацэнку). Затое ёсць такія сведкі мінулага, як старыя газеты. На працягу двух тыдняў па свежых слядах пісала пра тую падзею "Правда", нумары якой захаваліся ў маёй калекцыі. Пераказваць яе публікацыі тут не месца, таму абмяжуюся некалькімі характэрнымі цытатамі, у тым ліку і з замежнага друку, шматлікія каментарыі якога таксама змешчаны на старонках маскоўскай газеты.

У тасаўскай тэлеграме паведамлялася з Берліна: "Усхваленні Гітлера, шматслоўныя запэўненні пра тое, што хутка настане паляпшэнне, адкрытыя пагрозы на адрас тых, хто мае намер галасаваць супраць Гітлера або ўхіліцца ад галасавання, — вось чым запоўнены ўвесь германскі друк перад маючым адбыцца плебісцытам". Як гэта нагадвае нашы манапалізаваныя СМІ! Яшчэ задоўга да рэферэндуму яны сталі рупарам аднаго чалавека, а ў апошнія тыдні былі гатовыя разарвацца на кавалкі, абы дагадзіць свайму гаспадару, затуманіць вочы простым людзям.

Або вось з'едлівыя пытанні французскай "Фігаро", якія, пасля замены першых слоў, можна было нядаўна па праву задаць прэзідэнту Беларусі і яго бліжэйшаму атачэнню: "Калі праваднікі нацыянал-сацыялізму так упэўнена глядзяць на зыход плебісцыту, дык дзеля чаго яны гэтак мітусяцца? Навошта ўсе гэтыя трубы і барабаны, увесь гэты спектакль, усё гэтае тузанне за нітачку?".

Не вельмі адрозніваліся сцэнарыі, па якіх у Германіі і ў нас "забяспечваліся" яўка выбаршчыкаў на ўчасткі і іх "правільнае" галасаванне. "Дэмагогія і пагрозы", "Цягнуць да ўрнаў", "Паліцыя гойсае", "Як па нотах", "Плебісцыт — нязграбны манёўр", "У абставінах шпіянажу і тэрору" — гэта газетныя загалоўкі, якія добра адлюстроўваюць змест матэрыялаў, надрукаваных у 1934 годзе. Праўда, тады цягнулі да ўрнаў толькі ў дзень плебісцыту, бо ніхто не дадумаўся арганізаваць масавае "датэрміновае" галасаванне, як гэта зрабілі нашы "рацыяналізатары".

Што тычыцца падліку галасоў "за" і "супраць" Гітлера, дык яго праціўнікі ва ўсім свеце не прыдавалі гэтаму ніякага значэння, бо небеспадстаўна меркавалі: неабходныя лічбы былі занатаваны ў запісной кніжцы Гебельса яшчэ да рэферэндума. (Не ўдарылі тварам у гразь і арганізатары "волевыяўлення" беларускага народа. Як гаварылі злыя языкі, яны своечасова давялі да ведама вертыкальшчыкаў паказчыкі ў працэнтах, якіх трэба "дасягнуць" у іх абласцях і раёнах падчас галасавання).

"Вынікі фашысцкага плебісцыту, — чытаю падагульняючы артыкул "Правды", — толькі пабольшылі агіды да метадаў нацыянал-сацыялістаў за мяжой. А ўнутры краіны кожны германскі рабочы, кожны працоўны ўсё больш упэўніваецца, што праблема ўлады вырашаецца не галасаваннем". Не менш катэгарычным было выказванне ўплывовай у той час французскай газеты "Тан": "У краіне, дзе няма ні свабоды думак, ні свабоды друку, ні свабоды асацыяцый, ні нейкіх праў, якія гарантавалі б асабістую незалежнасць і чалавечую годнасць, народнае галасаванне не можа мець значэння".

Здаецца, што гэтыя радкі напісаны не толькі пра тагачасную Германію, але і пра сённяшнюю Беларусь. І яшчэ. Што б там ні казалі наваспечаныя ідэолагі-абвяргацелі, зноў і зноў пацвярджаецца: год таму А. Лукашэнка зусім невыпадкова захапляўся "нямецкім парадкам", сфарміраваным чалавекам, які пасля згаданага плебісцыту аб'явіў сябе "фюрэрам нямецкага народа".

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

*ФРАГМЕНТЫ*

# З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ПАРАДАК?

"У 1992 годзе ў рэспубліцы было памілавана 55 чалавек, расстраляны адзін. У 1993 годзе — памілавана 149, расстраляна — чатыры. 1994-ы: 134 і 19. У 1995 годзе, адпаведна, 5 і 86. За дзевяць месяцаў 1996 года не памілаваны ніхто, расстраляна ўжо 53 чалавекі і яшчэ 44 чакаюць рашэння па справе".

*"Уголовное дело", N 15 за лістапад г.г.*

Віншуем!

# НЕ ПЕРАСОХНЕ ШЧЫРАСЦІ КРЫНІЦА...



29 лістапада Купалаўскі тэатр прадстаўляе бенефіс Марыі Захарэвіч, — бенефіс, прымеркаваны да юбілею актрысы. Мяркуюць, што вядомасці акцёраў магутна спрыяе не толькі сцэна: стараецца радыё, дапамагае тэлебачанне... Сярод прафесіяналаў ходзіць жарт, што і радыё, і тэле так часта запрашаюць Марыю Георгіеўну, дбаючы пра ўласную вядомасць... А тэатр гэтага ўжо і не хавае:

**Спектакляў вашых толькі пералік**<br>
**Заняў бы часу, пэўна, паўгадзіны.**<br>
**Марыя Захарэвіч! Светлы лік**<br>
**Хай не крануць ні слёзы,**<br>
**ні маршчыны.**

**У івасёльска-мядзельскіх палях**<br>
**Люлялі травы вашае маленства.**<br>
**Адтуль няпросты**<br>
**пачынаўся шлях**<br>
**Да самага высокага майстэрства.**

**І хоць гадоў віруе хуткабег**<br>
**І за спіной "Парог"**<br>
**і "Навальніца",**<br>
**Хай не старэе ваш чароўны смех,**<br>
**Не перасохне**<br>
***шчырасці крыніца.***

**Да віншаванняў далучыліся**
**Мікола ШАБОВІЧ**
**і Жана ЛАШКЕВІЧ**

# СТВОРАНЫ БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ АБАРОНЫ ДЭМАКРАТЫІ

Пазаўчора, 27 лістапада, у афіцыйных газетах была ўжо надрукаваная прэзідэнцкая канстытуцыя.

У гэты ж дзень у памяшканні Дома літаратара адбыўся Кангрэс у абарону дэмакратыі, у якім удзельнічалі палітычныя партыі — прадстаўнікі "круглага стала". У склад арганізацыйнай рады ўвайшлі дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія засталіся на пазіцыях законнасці, сябры прафсаюзаў, партыяў, рухаў і грамадскія дзеячы.

Са словам выступілі Сямён Шарэцкі, Пётр Краўчанка, Юры Хадыка (БНФ), Аляксандр Паўлаў (Аграрная партыя), Станіслаў Багданкевіч (АГП), Мікола Статкевіч (БСДП "Народная Грамада") і іншыя вядомыя палітыкі.

Падчас працы Кангрэса быў створаны Беларускі камітэт абароны дэмакратыі, старшынёй якога стаў спікер парламента С. Шарэцкі. Намеснікамі старшыні выбраны А. Дабравольскі, М. Статкевіч, Ю. Хадыка, адно месца было пакінутае прадстаўніку Партыі камуністаў (хутчэй за ўсё, віцэ-спікеру В. Новікаву).

Галоўная мэта Камітэта абароны дэмакратыі — "захаванне ў поўным аб'ёме на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Канстытуцыі 1994 года.

**Аляксей ШЭІН**

Варункі

# АСАЦЫЯЦЫІ

**Пагладаючы на палітычную драму, якая разыгрываецца на нашых вачах, карысна часам пагартаць кнігі па гісторыі. Прыцягнула маю ўвагу адна цікавая гісторыя, якая здарылася з афінскім герцагам Гацье і якую вядомы сярэдневяковы гісторык і пісьменнік Макіявелі апісаў у сваёй "Гісторыі Фларэнцыі".**

**Герцаг Гацье стаў дзяржаўцам Фларэнцыі — горада-рэспублікі, дзякуючы некаторым фларэнтыйскім сем'ям, якія "заблыталіся ў пазыках і не мелі ўжо свайго дабра для расплаты, таму разлічвалі зараз на чужую маёмасць і на тое, што, аддаўшы ў няволю сваю айчыну, яны пазбавяцца ад няволі, якой пагражалі ім".**

**Першае, што ён зрабіў — пачаў судовы пераслед тых, каго абвінавачціў у пройгрышы адной з войнаў, якую Фларэнцыя вяла з Пізай. Праз гэта ён набыў папулярнасць сярод простага народа, "Калі герцаг праходзіў па вуліцы горада, яго гучна славілі за душэўнае высакародства і кожны публічна заклікаў яго заўсёды такім самым чынам раскрываць злачынствы і караць за іх. Камісія Дваццаці (Кіраўнічы савет Фларэнцыі. — А. Б.) з кожным днём значыла ўсё меней, а ўлада герцага і страх перад ім узмацняліся...**

**Мяркуючы, што ён можа ўжо без апаскі дабівацца чаго заўгодна, герцаг даў зразумець членам Сеньёрыі, што перакананы ў неабходнасці дзеля дабра дзяржавы атрымаць усю паўнату ўлады, і паколькі ўвесь горад з гэтым згодны, ён спадзяецца, што і Сеньёрыя пярэчыць не будзе".**

**Аднак сеньёры, "нягледзячы на тое, што яны ясна ўсведамлялі пагрозлівую для іх небяспеку, адказалі аднадушнай рашучай адмовай, каб не здрадзіць айчыне".**

**Тады герцаг загадаў прачытаць паўсюль указ аб загадзе народу заўтра сабрацца на плошчы горада. Сеньёрыя ў адказ звярнулася да яго з пасланнем: "*Мы з'явіліся да вас, сеньёр...* з-за вашага ўказа пра ўсенародны збор, бо нам здаецца несумненным, што вы імкняцеся надзвычайнымі мерамі дабіцца таго, чаго мы не хацелі вам даць законным парадкам... Нізы, якім вы зараз давяраеце, мяняюцца пры найменшай змене абставінаў, так што ў любое імгненне ўвесь горад можа ператварыцца ў вашага ворага. Ніякіх лекаў ад гэтае бяды няма, таму што засцерагчы сваё панаванне могуць толькі валадары, у якіх мала *ворагаў... Але калі нянавісць* акаляе цябе з усіх бакоў, не можа быць аніякай бяспекі, бо не ведаеш, адкуль пагражае ўдар, а баючыся ўсіх, нельга давяраць нікому...**

**Таму ў вас ёсць толькі адзін выбар: ці кіраваць гэтым горадам, ужываючы самыя крайнія сродкі гвалту, для чаго вельмі часта недастаткова бывае замкаў, узброенай варты, знешніх саюзнікаў, ці задаволіцца той уладаю, якую мы надалі вам, да чаго мы вас і заклікаем, *нагадваючы, што адзіная трывалая* ўлада тая, якую людзі прызнаюць па добрай волі".**

**Але "гэтая прамова ніколькі не кранула ганарлівую душу герцага". Ён адказаў, што "калі Фларэнцыя пад ягонай уладаю вызваліцца ад прыгнёту партый... гэта не адыме ў яе волю, а верне яе. Не пыха прымушае яго прыняць на сябе гэты цяжар, а мольбы шматлікіх гараджанаў.**

**Сеньёры, бачачы, што нічога яны не даб'юцца, дамовіліся назаўтра склікаць увесь народ на нараду перад палацам і з яго згоды аддаць герцагу вярхоўную ўладу на адзін год".**

*(Працяг будзе)*

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# КОНКУРС ПРАЙШОЎ. НЯХАЙ ЖЫВЕ НАСТУПНЫ!

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

І трэці дыпламант — піяніст з Украіны Андрэй Шабала, які з аркестрам іграў упершыню, але вельмі нядрэнна. Яго выкананне Рапсодыі на тэму Паганіні Рахманінава было даволі пераканаўчае.

**З. К.** У вылучэнні дыпламантаў маглі існаваць, ды, пэўна, і існавалі, варыянты, але лічбы — рэч няўмольная. Прайшлі ў фінал тыя, у каго балаў было больш. З тых, хто па розных прычынах не прайшоў на III тур, мне хацелася б адзначыць Ганну Шыбаеву, Насцю Белан, Аляксея Пятрова — тонкага інтэрпрэтатара Шапэна.

Агульны ўзровень удзельнікаў вызначыўся як даволі высокі. За выключэннем некалькіх чалавек, бо не ўсе спаборнікі добра ведалі, якога ўзроўню піянізм на Беларусі. Было шмат не проста добрых выканаўцаў, а менавіта **індывідуальнасцяў**, што ўрэшце і вызначае ўзровень конкурсу. Шматлікія ўдзельнікі, акрамя прафесійна-тэхнічных сродкаў, дэманстравалі свае, індывідуальныя знаходкі. Яркі і запамінальны вобраз, які застаўся ў маёй памяці, стварыла піяністка з Эстоніі Інга Аро, якая, на жаль, не прайшла на II тур: яна прадэманстравала проста выдатнае гучанне раяля. Таксама звярнулі на сябе ўвагу Таццяна Холапава з Расіі — з драматычным, змястоўным, поўным філасофскай глыбіні Экспромтам Шуберта, ды Іна Салдаценка з Украіны — з "жывой", лёгкай пальцавай тэхнікай.

**В. Р.** Рэгламент конкурсу быў вельмі жорсткі. Журы трэба было праслухаць больш за 80 удзельнікаў за 6 дзён і выдаць вынікі. Гэта было нялёгка. Я лічу, што ў будучым паміж I і II турамі абавязкова трэба зрабіць дзень перапынку. Бо калі хто-небудзь з удзельнікаў, выцягнуўшы на жараб'ёўцы адзін з апошніх нумароў, праходзіў па балах на II тур, то проста не меў магчымасці пазаймацца, паўтарыць праграму. Адсутнасць часу і неабходнасць выбраць з васьмідзесяці спаборнікаў 18 ператварылі I тур практычна ў самастойны конкурс. Думаю, што пад правядзенне мерапрыемства такога маштабу павінна быць аддадзена болей часу.

**З. К.** Працу ў журы поўнілі самыя прыемныя ўражанні. Зносіны паміж намі абмяжоўваліся толькі выказваннямі ў прыватнай гаворцы, бо сістэма галасавання не дазваляла, ды і не дапускала ніякага абмеркавання, мы ставілі адпаведную колькасць балаў, і пры канцы кожнага дня праслухоўвання сакратар збіраў аркушы для галасавання, запячатваў іх і замыкаў у сейфе.

Ніякіх праблем з прысуджэннем I прэміі не было. Наогул, як і з вызначэннем усіх лаўрэатаў.

**В. Р., З. К.** Самы радасны для нас факт, што ў конкурсе бралі ўдзел з боку Беларусі не толькі студэнты акадэміі і ліцэя, але ж і навучэнцы музычных вучылішчаў з Гародні, Маладзечна і Гомеля.

**В. Р., З. К.** Усе ўдзельнікі конкурсу вельмі ўдзячныя распарадчаму дырэктару Галіне Вагнер. Усе пытанні, якія ўзнікалі на працягу конкурсу, хутка вырашаліся ў спакойных дзелавых абставінах. Амерыканскі прадстаўнік у журы Джозэф Банавец на заключным пасяджэнні адзначыў высокі ўзровень падрыхтоўкі да правядзення такога адказнага мерапрыемства, а сустаршыня журы Віктар Мяржанаў дадаў, што II тур нашага конкурсу змог задаць тон і на якім-небудзь ужо знакамітым спаборніцтве піяністаў.

**В. Р.** Вельмі задаволена сваёй працай у журы і скажу так: ёсць на Беларусі "канкурэнтаздольная прадукцыя"! І гэты конкурс — добрае пацвярджэнне маім словам.

**З Валянцінай РАХЛЕНКАЙ**
**і Зояй КАЧАРСКАЙ гутарыў**
**Георгій САСНОЎСКІ**

*Фота А. МАЦЮША*

# НАШАМУ ДАІЛЬНАМУ АПАРАТУ КУЛЬТУРА НЕПАТРЭБНА...

ЯШЧЭ Ў СВАІМ універсітэцкім юнацтве я захапляўся прозай цудоўнага рускага пісьменніка Андрэя Бітава. Цяпер мне больш гадоў, чым было гэтаму аўтару падчас напісання ягонай "Кнігі падарожжаў", і я прадбачыў, што цяпер, перачытваючы гэтую кнігу, у мяне паменшае захаплення, што цяпер, маючы нейкі свой індывідуальны досвед і наогул "з вышыні" сучаснага светаадчування тое-сёе здасца мне, можа, не такім значным, можа, сям-там павярхоўным, ці, як кажуць, "не вытрымаўшым выпрабавання часам". І вось, перачытваючы гэтыя радкі, я сёння зведваю нейкае падвойнае, быццам стэрэаскапічнае захапленне. І натуральнае, якое непазбежна ўзнікае пры імклівым — аж дух займае — спуску па крутых віражах глыбокай і нечаканай думкі, выкладзенай проста і адначасна вытанчана, і ад усведамлення таго, **к а л і** гэтыя тэксты былі напісаны, якую яны маюць, так бы мовіць, інварыянтнасць у адносінах да часу, а, магчыма, і да прасторы.

Перапрашаю, што дазволю сабе, можа, завялікую цытату, аднак я не ведаю, як яе можна было б скараціць:

"Калі б мне далі задачу вызначыць у двух словах, што такое культура, не тая культура, якая ёсць вышэйшая адукацыя і аспірантура, бо і адукаваны чалавек можа аказацца хамам, а тая культура, якой бывае надзелены і непісьменны чалавек, я б вызначыў яе як здольнасць да павагі — здольнасць павагі да іншага, здольнасць павагі да таго, чаго не ведаеш, здольнасць павагі да хлеба, зямлі, прыроды, гісторыі і культуры — такім чынам, здольнасць да самапавагі, да разумення ўласнай годнасці. І паколькі і не быў бы задаволены гэтай фармулёўкай, мне б паказалася, што яна няпоўная, я б яшчэ дадаў — здольнасць не нажырацца. Абжыраецца і перанасычаецца заўсёды жабрак, заўсёды раб, незалежна ад знешняга свайго набытку. Абжыраецца на баляванні, абжыраецца каханнем, абжыраецца ў дружбе... Выкідвае хлеб, праганяе жанчыну, адпіхвае сябра... Бруд. Пэцканіна. Кароткае дыханне, задышка... Такому прызначана нічога не мець — галадаць, бо толькі галодны ён яшчэ захоўвае чалавечае аблічча і здольны да спачування і разумення. Ён раб. Сыты, ён ванітуе і пагарджае ўсім тым, чым абжэрся, і помсціць таму, чаго прагнуў, жадаў. Прагнуў і нахлябаўся. Такая ўяўная свабода ад мірскога, калі ўжо сыты, такая быццам бы духоўнасць... Паводзіць мутным позіркам, што б яшчэ адпіхнуць, запэцкаць і зламаць. Ён вычарпаў сваё галоднае памкненне да свабоды, калі нажэрся. І цяпер яго свабода — наступная ступень за сытасцю — хамства. Таму што ён зноў нічога не меў, нічым не валодаў, дарваўшыся, і цяпер, каб пераканаць сябе ў сваёй свабодзе, ён павінен пляваць на ўсё тое, да чаго ён так ганебна аказаўся не гатовым — да валодання. З дастаткам спраўляецца толькі культура. Некультурны чалавек не можа быць багатым. Багацтва патрабуе культуры. Некультурны заўсёды згалее, а потым будзе даводзіць да галечы іншых".

Гэта — з твора "Урокі Арменіі. Падарожжа ў невялікую краіну". У канцы пазначаны час напісання — 1967-1969. Гэта, мабыць, быў час, калі застой яшчэ ніхто не лічыў застоем, паўсюль красаваліся намаляваныя аптымістычныя лозунгі і твары, і ўсякі тэкст перад публікаваннем патрэбна было ўзгадніць з пільнымі і ўсемагутнымі інстанцыямі.

Аднак маё здзіўленне і захапленне выклікае нават не лёгкасць і артыстызм, які дазваляў Андрэю Георгіевічу прабівацца праз заслоны таталітарнага дэбілізму, а тое, як гэтая яго думка праз амаль трыццацігадовую таўшчыню часу тонка і дакладна выкрывае прычыну таго, што адбываецца з нашай краінай сёння.

Семдзесят дзевяць гадоў таталітарызму з невялікай і няпоўнай двух-трохгадовай аддушынай сапраўды сфармавалі пэўны тып чалавека, асабліва чалавека ва ўладзе. Матэрыяльнае нават па афіцыйнай дактрыне ставілася вышэй за маральнае, і суцэльная мафія, нашае начальства, усе гэтыя гады думала толькі аб тым, як украсці, як паўней выкарыстаць сваё службовае становішча. Пэўныя перашкоды павінны былі складаць законы, аднак закон ніколі не дзейнічае сам па сабе, закон выконваюць усё тыя ж людзі, якія на першым плане маюць матэрыяльнае, ды і на другім, трэцім, якім хочаце — толькі матэрыяльнае і больш нічога.

Усякую вольніцу такія людзі ўспрымаюць толькі як магчымасць лацвей украсці, больш поўна задаволіць свае разнастайныя матэрыяльныя запатрабаванні. Народ у нас усё бачыць, усё прыкмячае — вось і вырашыў народ абраць народнага прэзідэнта, які б хоць трошкі пацясніў гэтага змея-гарыныча — нашае чынавенства.

Аднак такія спадзяванні ад самага пачатку былі марнымі, і справа тут нават не ў асобе чалавека, які быў абраны на небывалы для краіны пост. Колькі б ні пладзіліся размаітыя кантрольныя інстанцыі, вынік заўсёды будзе такім самым. Бо адкуль возьмуцца новыя кантралёры, як не ад старой і несмяротнай наменклатуры! Народу карысць толькі адна — карміць за свой кошт усё новыя і новыя адміністрацыйныя структуры.



*Фота А. Шаблюка*

А ўся справа заключаецца якраз у культуры. Неабходны пэўны узровень культуры ў грамадстве, каб яно ўсвядоміла даволі складаную для разумення, як аказалася, ісціну: што не правадыры са сваімі прыхлябацелямі кормяць простых людзей і ствараюць ім умовы для жыцця, а наадварот — менавіта простыя людзі кормяць сваіх правадыроў і іх хеўру за свой кошт і ствараюць ім выдатныя ўмовы для іх жыцця. Прамаўлялася такое неаднойчы, а вось жа даходзіць слаба. Зрабілі пенсіянерам бясплатны праезд у прыгарадных цягніках, і пляскаюць у ладкі пенсіянеры. Цяжка ж задумацца, адкуль узяліся грошыкі. Можа, які добры дзядзька зарабіў у рудніках ды цяпер раскашэліўся, ці хто з "вертыкальных" атрымаў дапамогу з Амерыкі? Не, аказваецца, школьнікі ўвесь верасень мусілі ездзіць у цягніках далёкага следавання па дарослым тарыфе, а з кастрычніка школьнікі маюць ільготу толькі па выхадных днях. Аднак, калі пра шчаслівых пенсіянераў можна было даведвацца па тэлевізары бадай што кожны дзень, то пра школьнікаў — толькі ў чыгуначных касах.

Каб наша чынавенства дбала пра простага чалавека, які яго корміць, то не прадавалася б пляшка гарэлкі за тую ж цану, што кілаграм смятаны ці адна чорна-белая фотаплёнка. У той час, калі кошт паўлітэркі раўняўся кошту трыццаці пяці боханаў хлеба або дваццаці фотаплёнак, расійскі прафесар Вуглоў падлічыў, што на кожны рубель, які дзяржава атрымлівала ад продажу гарэлкі, яна мае пяць рублёў страт ад негатыўных наследкаў ужывання алкаголю, якія выяўляліся ў самых розных сферах. Якой жа стала гэтая суадносіна цяпер у нашай, так бы мовіць, суверэннай дзяржаве? Колькі заўчасна загінуўшых людзей, колькі людзей працаздольнага ўзросту становяцца нямздольнымі да працы ў выніку курсу чынавенства на спойванне грамадства?! Чынавенства ведае — спаенае грамадства бяздумна пойдзе за імі туды, куды яны загадаюць, і гэтага ім дастаткова. Канечне, справу дэалкагалізацыі ў нашай асобна ўзятай краіне і не вырашыць — дзякуй празрыстым да неадчувальнасці межам.

**Ці ўзяць тое ж пытанне з незаконным атрыманнем ільготных крэдытаў на будаўніцтва катэджаў. Доблесныя кантралёры вынайшлі з дванаццаці тысяч гаспадароў катэджаў, пабудаваных вакол Мінска, ажно пяцьсот парушальнікаў. Справа нават не ў тым, што ніхто з гэтых пяцісот так нічога і не заплаціць. Магчыма, знойдуць некалькі чалавек, у якіх няма "завязак" наверсе, і гэтыя бедалагі заплацяць. Аднак ніхто не задумваецца, што такое крэдыт наогул у час трохтысячапрацэнтнай інфляцыі. Бралі некалькі дзесяткаў тысяч долараў, вернуць дзесятак пенсаў. Быццам такі крэдыт можа падраздзяляцца на законны і незаконны! Застаўце заплаціць у доларах столькі, колькі хто ўзяў, — вось і ўся праўда. Хай нават без уліку той інфляцыі, без якой не абыходзіцца і сонечная краіна, дзе тыя самыя долары выраблюцца. Дык не, трэба ж прыстроіць шматлікія родненькія душы ў living рознага кшталту кантралюючыя органы.**

Наконт нерухомасці маецца яшчэ адно цікавае пытанне, якое наш ВС стрымгалоў вырашыў ці не на карысць самых чыноўных са сваіх выбаршчыкаў, а народны прэзідэнт і брывом не павёў. Справа ў тым, што паўсюль у цывілізаваным свеце прынята плаціць дзяржаве падатак за нерухомасць, стаўка якога ў найбольш вядомых краінах вагаецца недзе ля аднаго працэнта ад яе кошту за год. І гэта ў краінах, дзе многія ўладанні належаць аднаму і таму ж роду сотні гадоў. Такім чынам, за нерухомасць на працягу існавання таго ці іншага аб'екта можа быць выплачана сума падаткаў, пераўзыходзячая кошт аб'екта. Нашыя ж дэпутаты прынялі стаўку падатку на нерухомасць, роўную 0,1% гадавых. Так што мала таго, што нерухомасць гэтая дасталася "новым беларусам" (як правіла, наследкам "старых"), як кажуць, на халяву, дык яшчэ і падатак яны плацяць, па сутнасці, ільготны. А на тэлебачанні ўжо агучваецца новая кампанія па льготным крэдытаванні жылля, на гэты раз ужо для безумоўна "харошых" людзей, і паказваюцца катэджы за кошт, які не падасца нязначным нават доларавому мільянеру. У такіх умовах ці не лепш будзе, калі гэтая праграма акажацца толькі чарговым прапагандысцкім манеўрам? Іначай аплачваць такую начальскую шчодрасць прыйдзецца каму б вы думалі — канечне ж, зноў нам, сірым.

А ўзяць хаця б нашую міліцыю, ці ўсякія розныя "-назы". Напрыклад, у Гомелі гэтых хлопцаў столькі, што калі яны перамяшчаюцца тралейбусамі, дык усе адразу ў адзін не месцяцца, частка пастаянна чакае наступнага. А калі побач з Гомелем, за некалькі метраў ад агароджы хімічнага завода, пачаў гарэць лес, дык ён гарэў два тыдні, і паўгорада было зацягнута дымам ад гэтага пажару, і ніхто не быў пасланы на барацьбу з агнём. Дзякаваць Богу, прайшлі добрыя дажджы, і адна стыхія была пераможана другой, так што згарэў, можа, толькі адзін квадратны кіламетр, "драбяза" ў параўнанні з тымі глабальнымі пытаннямі, якія кожны дзень рашае для сябе нашая наменклатура. А ў гэтых раскормленых хлопцаў, мабыць, іншая функцыя, чым барацьба са стыхійнымі бедствамі.

Толькі змаганне з гэтымі, відавочнымі, прарэхамі ў бюджэце дало б магчымасць нашай згалелай дзяржаве пачаць расплачвацца са сваімі грамадзянамі па ўкладах у Ашчадным банку. Але, мабыць, не ў гэтым нашая згалелая дзяржава бачыць сваю асноўную функцыю. Замест выканання сваіх грашовых абавязацельстваў перад насельніцтвам згалелая дзяржава робіць грандыёзныя з'езды наменклатуршчыкаў усіх узроўняў, рэгулярныя рэферэндумы па пытаннях, якія пад сілу толькі спецыялістам высокай і рэдкай кваліфікацыі, і збіраецца будаваць дамы па дзвесце сорак тысяч долараў свайму сельскаму электарату.

Карацей, мае рацыю Андрэй Георгіевіч: пакуль мы застаёмся малакультурнай нацыяй, дык выхаду з галечы нам не відаць. І таму самыя выгадныя інвестыцыі, якія сапраўды могуць прынесці карысць народу, грамадству, — інвестыцыі ў сферу культуры. Вось толькі ці патрэбна гэта нашаму даільнаму апарату, які спраўна функцыянуе ў нашай краіне хутка ўжо восем дзесяцігоддзяў?

**Аляксандр УРБАНОВІЧ**

*г. Гомель*

## АПОВЕДЫ ПРА ВЕЧНЫ ГОРАД




**Пасольства Ізраіля ў Мінску па ініцыятыве Беларускага Камітэта па святкаванні 3000-годдзя Іерусаліма выдадзена кніжка "Паклон табе, Іерусалім". У ёй сабраны расказы нашых землякоў — жыхароў Беларусі, якія наведвалі сталіцу трох асноўных рэлігійных канфесій зямлі, Вілікі Горад Іерусалім. Аўтары зборніка апавядаюць пра свае ўражанні ад убачанага ў вершах, нарысах, замалёўках. Сярод аўтараў — народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, галоўны хормайстар Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Тамара Гуліна, старшыня Камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка, першы сакратар Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Вадзім Ліпшын, пісьменнік Уладзімір Мехаў, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, галоўны рэдактар газеты "Вячэрні Мінск" Сяргей Сверкуноў.**

**Пра сваё наведванне Іерусаліма расказвае Елізавета Даленга-Вжозек, якая ездзіла туды атрымліваць прысуджаныя ёй маці, Тэрэзе Даленга-Вжозек, Памятную Медаль і дыплом Праведніка Народаў свету за выратаванне яўрэяў у гады вайны. Выказала свае ўражанні ад паездкі і вучаніца сярэдняй школы горада Маладзечна Надзя Смалячкова. Яна заняла першае месца ў сусветным конкурсе "Дзеці свету малююць Іерусалім". Малюнак Надзі, "Іерусалім Нябесны", аздабляе апошнюю старонку вокладкі зборніка.**

**"Калі я забуду цябе, Іерусалім, няхай адсохне дзясніца мая. Прыліпні язык мой да гартані маёй, калі не буду памятаць цябе, калі не пастаўлю Іерусаліма на чале вяселля майго..." — гэтую песню-малітву прыводзіць у сваім артыкуле гаоўны рэдактар газеты "Minsk Economic News" Міхаіл Валодзін. Увесьчасна згадваецца ў кнізе незвычайны, праз вякі захаваны патрыятызм яўрэяў, якія, не маючы сваёй дзяржавы, рассеяныя па свеце, захавалі і сваю мову, і любоў да даўно згубленай роднай зямлі, і ўрэшце змаглі здзейсніць традыцыйнае пажаданне пры развітанні: "Наступным годам у Іерусаліме"... І міжволі ў многіх аўтараў-беларусаў прасочваецца падсвядомая зайздрасць, вось бы і нам, беларусам, гэтак жа аддана любіць сваю Бацькаўшчыну, захоўваць родную мову...**

**У кнізе шмат цікавага. Там робіцца спроба як мага відочней прадставіць сённяшні дзень Іерусаліма для тых, хто там не быў. Можна даведацца пра лёс эмігрантаў з Беларусі, побыт сучаснага ізраільцяніна, цікавыя мясціны, помнікі, музеі. Расказваецца і пра палітычную сітуацыю, якая склалася ў рэгіёне, і пра тыя праблемы, што хвалююць і падзяляюць грамадства Ізраіля. Усё гэта ўбачана вачыма людзей рознага ўзросту, перакананняў, нацыянальнасці. Таму панарама сучаснага Іерусаліма атрымліваецца аб'ёмнай і досыць падрабязнай.**

**Застаецца дадаць, што укладалі зборнік Святлана Кахновіч і Авіва Валк, рыхтаваў да друку Баляслаў ІанІсян.**

**Л. Р.**

Сярод кніг

# РЭЦЭНЗІЯ Ў НАСТУРКАВЫХ БАСАНОЖКАХ

**...На гіяцынтаў букет**
**Льецца святло Іпакрэны...**

Калі б і не былі гэта радкі з папулярнай песні, дасведчаны ў беларускай паэзіі чалавек адразу адкажа: не інакш, Дранько-Майсюк напісаў.

Калі ўдалося зрабіць сваю творчасць пазнавальнай, гэта ўжо многа. Прынамсі, ёсць прастора для крытыкі: у чым адметнасць творцы ды якімі сродкамі дасягнутая. Хаця пра паэзію Леаніда Дранько-Майсюка пісалі збольшага на эмацыйным узроўні: захапляліся, абураліся, упікалі, прымервалі цэтлікі...

## ДАРЭЧЫ, ПРА ЦЭТЛІКІ...

Леанід Дранько-Майсюк сам правакуе чытача на такое "прымерванне цэтлікаў", сам акрэслівае паралелі між уласнай паэзіяй і паэзіяй славутых папярэднікаў... Як не трапіцца на такую "вуду" — "...паэзія Л. Дранько-Майсюка прыўносіць у беларускую культуру не толькі французскую грацыю, але і водбліскі так званага "срэбнага стагоддзя", эстэтыку "Мира искусства", імпрэсіяністычныя вэлюмы Блока", — піша Надзея Бунцэвіч у артыкуле "Адзінота", які прысвечаны творчасці і асобе паэта ("Беларусь", N 1, 1996). Але, на мой погляд, сучасны паэт можа настолькі ўсур'ёз быць сімвалістам срэбнага веку ці "мирискусником", наколькі мушкецёрам ці вікінгам. Пры ўсім сваім жаданні. Бо нельга двойчы ўступіць у адну і тую ж раку. Кантэкст часу вымушае падшукваць новыя назвы для падобных з'яў (ці ўсё-ткі толькі знешне падобных?). Тым больш калі паэт, падсмейваючыся з даверлівага чытача, падкідвае яму новыя і новыя алюзіі для "цэтліка": "Успомніце маіх любімых паэтаў і зразумейце: яны вучыліся ў мяне". Прамое містыфікаванне: дапушчальнасць поўнага атаясамлення з "тымі" плынямі, адмаўленне часавай прывязкі творчасці. Сімвалізм, эстэцтва, імпрэсіянізм, Уайльд, Рэмбо, Апалінэр, Верлен, Элада, Еўропа, егіпецкая ружа... І ўсё гэта пераплятаецца з рэаліямі беларускага мястэчка ды апаэтызаванымі кутočкамі сучаснага Мінска... І калі я маю так многа для таго, каб вывесці аўтара ў "інтэлектуальна-эстэтычна-сімвалічнага мадэрніста" на беларускай глебе, я пачынаю падазраваць, што аўтар проста містыфікуе мяне, і прымервае эклектычны "інтэлектуалізм-эстэтызм-сімвалізм-мадэрнізм" на сваё піітава плячо, як карнавальны плашч з "Фантазій у манеры Кало". Так, не Верлен-Цютчаў-Блок згадаўся, а Гофман з яго няўрымснай фантазіяй і пастаяннымі містыфікацыямі, а ад яго асацыяцыя перакідваецца на Джойса, увесь тэкст якога — найвялікшая містыфікацыя XX стагоддзя, што прымусіла літаратуру ўзняць сваіх коней на дыбкі і пакіраваць іх убок ад наезджанай дарогі, шукаць невядомыя скарбы па карце прыдуманага вострава.

Паэт працуе з унутраным хаосам, з апрацоўкі якога з'яўляюцца мастацкія творы. Але час змясціў акцэнты каштоўнасцяў у літаратуры, і ўжо Расэл папракаў Джойса ў недахопе гэтага першаматэрыялу. Хаця, можа быць, справа не ў недахопе, а ў тым, што, перш чым выйсці на ўзровень мастацкага твора, гэты першаматэрыял прапускаецца скрозь значна больш складаную сістэму вобразна-сімвалічных шкельцаў, а часам — скрозь цэлы аптычны лабірынт, выбудаваны інтэлектам і фантазіяй творцы. Можа быць, у выніку і атрымаўся стыль мадэрн, які, падобна калейдаскопу, пераліваецца алюзіямі, рэмінісцэнцыямі і бліскучымі вобразнымі знаходкамі... Ці не праўда, нагадвае паэзію аўтара паэтычнага зборніка "Стомленасць Парыжам", прачытанне якой і натхніла мяне на гэтак глабальныя развагі:

**Ты, — памножаная на неба**
**І падзеленая на страх, —**
**Здабываеш са смутку срэбра**
**Старажытных вясёлых *драхм*.**

**Ты далей, чым слова далёка,**
**І чысцей за ўсе халады...**
**Неўрадлівы пясок *сірока***
**Засыпае твае сляды.**

Сама назва зборніка ўтрымлівае выклік: "Стомленасць? Парыжам?! Колькі ж гэны давыд-гарадоцкі хлопец быў у Парыжы, што ажно паспеў ім стаміцца? У той час як мы, неэстэтуючая большасць, толькі марым пра тое, каб на свае вочы пабачыць Эйфелеву вежу..."

На свае вушы чула гіпотэзу: "Ды не быў ён там зусім.. Усё прыдумаў..."

А старанна падабраны лексічна-вобразны рад: астры, вербена, гіяцынт, бальзамін, крышталь, тэатр, балет, філігрань, гранатавыя каралі, настуркавыя басаножкі, матылькова флейта... Цені — ажурныя, пазіранне — аперэтачнае, якасці — вакхічныя... У васьмі вышэйпрыведзеных радках — і срэбныя драхмы, і пясок сірока... Нават падкрэсліванне местачковых рэаліяў нагадвае уайльдаўскае бравіраванне плебейскім паходжаннем. А па аналогіі са "срэбным векам" расійскай паэзіі ўспамінаецца міфічная Чэрубіна да Габрыяк, створаная гарэзным геніем Максіміліяна Валошына. Сціплая пачынаючая паэтка Елізавета Дзмітрыева па плане старэйшага сябра пад засенню гучнага псеўданіма пісала вычварна-вытанчаныя вершы, вытрыманыя ў салонна-экзатычнай стылістыцы. Прыклад аднаўзроўневай містыфікацыі. Містыфікацыя Джойса і Борхеса, ці таго ж Браўнінга, пры жыцці якога было створана таварыства вытлумачэння ягоных твораў — іншага ўзроўню, бо тут немагчыма вызначыць мяжу, дзе канчаецца містыфікацыя і пачынаецца літаратура. З другога боку, той жа Верлен, адзін з улюбёных паэтаў Дранько-Майсюка, сцвярджаў, што вершы павінны быць па-за літаратурай, яны — музыка, паўтон, бесцялеснасць. У прынцыпе, Дранько-Майсюк стараецца вытрымліваць гэтыя інструкцыі. Славутая А. у настуркавых басаножках толькі аднойчы набывае плоць — у вобразе іншай, канкрэтнай, жанчыны... Але калі вершы Верлена сапраўды былі герметычнымі, вершы Дранько-Майсюка я б такімі не палічыла, нягледзячы на тое, што запярэчу некаторым даследчыкам. У герметычных вершах поле дзеяння — душа аўтара, і ўсё, што выглядае

# САМОТА АДЗІНОТЫ

*Як бы там ні было, але пасля доўгага вывучэння самога сябе я ўстанавіў глыбокую двухаблічнасць чалавечай прыроды... Даказаўшы сабе сваю адзіноту, я мог аддацца слодычнай, мужнай самоце.*

**А. Камю**

Сярод сучасных аўтараў Вітаўт Чаропка вылучаецца пэўнай парадаксальнасцю. Гэта вынікае ўжо адно толькі з назваў ягоных твораў. Малады пісьменнік адважваецца на стварэнне "Храма без Бога"; імкнецца давесці, што ў жыцці часцей за ўсё раскашуе "Перамога ценю", а не святло; спрабуе разабрацца ў прычынах нараджэння і патрэбы ў "Геніі смерці"; замахваецца на "Малую падарожную кніжку". У празаіка хапае рашучасці на адвяржэнне сталых ісцін. Часта ён падыходзіць да іх асвятлення з нечакана новых пазіцый, не баючыся закрануць нутро прыхаваных псіхічных і фізіялагічных комплексаў, пашываючы кола не дазволеных яшчэ нядаўна тэм.

Разам з тым адчуваецца, што творца не прэтэндуе на абсалютную неабвержнасць выказаных думак. Ён не лічыць заганным прызнацца, што арыентуецца ў сваёй творчасці не на абстрактнага чытача, а на сваё "я", выявіць сумненне ў нейкім выключным прызначэнні ўласнай персоны. Не кожны, нават дзеля пазёрства, адважыцца прамовіць: "Хто сказаў, што я пісьменнік?"

У гэтай, на першы погляд, амбіцыйнай фразе няма нічога ад таннай манернасці. Прыкметна (няўжо пакуль?..) кідаецца ў вочы жаданне празаіка рабіць канкрэтную справу, а не вызначаць сваё адметнае месца ў літаратурным жыцці. У адным з абразкоў-роздумаў ён так вытлумачвае сутнасць чалавечага прызначэння: "Калі ёсць душа, дык трэба яе ратаваць, каб апраўдаць сваё нараджэнне".

У тым, што душа ёсць, В. Чаропка, які здольны пабудаваць сваю ладдзю "Арго", нястомна шукаць залатое руно мастацкага слова і адначасова самотна разважаць над недасканаласцю чалавечага "я", ніколькі не сумняваецца: "І я кажу, што ёсць у нас душа: трапяткая, як вогнік свечкі, паэтычная, як плач жалейкі, пяшчотная, як сонечны промнік, гарачая, як купальскае вогнішча, добрая і закаханая, летуценная і ўзнёслая, ахвярная і мужная, чыстая, як сляза радасці і гора".

Выходзіць, як ні намагаўся пісьменнік паказаць цёмнае, адлюстраваць сполахі змрочнага ў нашай псіхіцы, як ні настойваў на абыякавасці, схіленасці, падпарадкаванні чалавека абставінам і так званым уладарам жыцця, здольнасці лёгка ўзняць руку на лёс і жыццё іншых, усё ж канчаткова ён мусіў прызнаць (дакладна — у эсэ "Малая падарожная кніжка", больш шырока — падтэкстам іншых твораў зборніка) перавагу высокага, горняга над зямным, сцвердзіць у якасці вызначальнай рысы прасветленасць душы Духам Любові.

Такое прызнанне адразу здымае правамоцнасць зробленага вышэй заключэння адносна парадаксальнасці творцы. Хутчэй за ўсё В. Чаропку, як і кожнаму мастаку-псіхолагу, важна дабрацца, прабіцца да вытокаў любой з'явы, прычынаў тых ці іншых душэўных зрухаў, канкрэтных учынкаў асобы. Вопыт папярэднікаў, сучаснікаў тут можа быць карысным, але не ўзаемазамяняльным, плённым, але не адкрыцём. Пісьменнік, мастак увогуле шукае і знаходзіць у адзіноце. Магчыма, адсюль яго самота, якая найчасцей ёсць адзнакай самасці і ўсіх вытворных ад яе паняццяў. У тым ліку і адзінкавасці. Ад гэтай да адзіноты адзін крок.

Трымаючыся ў літаратуры свайго месца і зрэдзь адрываючыся ад яго ў творчых пошуках новых тэм і сродкаў мастацкага самавыяўлення, стамляючыся ад гісторый хвароб іншых (з уласнага прызнання пісьменніка), В. Чаропка тым не менш піша сваю гісторыю хваробы. Гэтак жа старанна, як і адрозныя ад яго ў сваім адвечным жаночым одуме пра ўвесь белы свет праз свет малы Г. Багданова і М.Вайцяшонак, непрыхавана іранічныя ў апошніх творах А. Асташонак і У. Арлоў, алегарычныя Б. Пятровіч і А. Наварыч.

Цалкам дапушчальна выкарыстаць гэты метафарычны назоў для характарыстыкі і азначэння ўсёй сучаснай літаратуры. Народжаны фантазіяй А. Федарэнкі (памятаеце яго "Гісторыю хваробы"?), якога зусім незаслужана зрабілі ў апошні час аб'ектам крытычнага абстрэлу сваё ж браты па пяры (а як жа, сам падставіўся, акрэсліў нейкія там два літаратурныя лагеры...), ён дакладна адпавядае стану сучаснага грамадства, літаратуры, у якіх навідавоку перавага болек, ценю, разбуральнага самазнішчэння.

Якая ж яна, гісторыя хваробы аднаго з многіх і ўсё ж адметнага В. Чаропкі? Найперш — хвалюючая. І гэта за стрыманасцю празаічнага радка, адсутнасцю эпатажнасці ў думках і справах героя і відочнай адмовы аўтара хоць неяк іх прыхарошваць. Пісьменнік не абмяжоўваецца старанна сабраным анамнезам, ён даследуе хваробу ў развіцці, амаль заўсёды да яе выспявання, крытычнай кропкі. Перанесены крыз выявіць наяўнасць імунітэту ці адсутнасць яго, што абумовіць далейшыя паводзіны асобы, яе адносіны да іншых, да свету наогул, стане прычынай яе радаснага ўзлёту ці трагічнага падзення пад цяжарам выпрабаванняў жорсткасцю, непаразуменнем, няўмольным збегам абставін.

Аўтар назваў сваю аповесць "Шчасце страсцей" (прыведзены прыклад, здаецца, не адзіны выпадак не заўсёды ўдалых і адпаведных зместу назваў твораў). Няшчасці змалку накінуліся на яе героя бездапаможнага, кволага Міцьку Мархеля, які зжыўся са сваімі пакутамі", жывіцца дробным крадзяжом, падпарадкоўваецца інтэрнатаўскаму "імператару" Чэрніку. Але аднойчы, даведзены да мяжы адчаю здзекамі пераростка,

*Чаропка Вітаўт. Перамога ценю. Аповесці, апавяданні, эсэ. Мн., 1996.*

рэаліямі, на самай справе — код псіхалагічнага стану. У вершах жа "для А." пры ўсёй іх тонкасці і абстрагаванні ад сацыяльна-грамадскіх рэалій хапае ўласна рэалій, ёсць сюжэт і дзеянне, якія паддаюцца аналізу логікі, ёсць прывязка да канкрэтнага месца ў прасторы і, што самае, бадай, істотнае — амаль статычны псіхалагічны фон. Герой вершаў не належыць да "праклятых паэтаў", як называў сябе і сваё творчае пакаленне Верлен. Ён не выяўляе трагічнай раздвоенасці сябе як асобы і як паэта, несупадзення рэальнасці жыццёвай і рэальнасці паэтычнай, пра што сам і гаворыць:

**Я ведаю жыццё сваіх паэтаў**
**І не хачу іх вопыт пераймаць...**

Адным з прынцыпаў улюбёнага паэтам сімвалізму быў "жыццёва-творчы прынцып"; максімальнае атаясамленне сваёй асобы і лірычнага героя. Яшчэ "бацька рамантызму" Жэрар дэ Нерваль вызнаваў прынцып "уласна паэта". Сцерці мяжу між рэальным і "яўленым" намагаліся і намагаюцца многія. Няцяжка ўбачыць паслядоўніка гэтага прынцыпу і ў Дранько-Майсюку: і арыстакратычна падвоенае прозвішча, і элеганцкія строі, манера паводзін, выверанасць кожнага адказу ў гутарках...

Зборнік "Стомленасць Парыжам" увасабляе пошук аўтарам гармоніі, і пошук удалы. Усё ўпісваецца ў межы стылістыкі: назва, фотаздымак аўтара, віртуозна выбудаваная паслядоўнасць твораў: напачатку — дзённікі, затым — вершы для А., датаванне якіх пераклікаецца з датамі дзённікавых запісаў і пры жаданні могуць дапаўняцца адно адным; затым — эгаэсэ, у якім усё тыя ж тэмы развіваюцца на іншым узроўні. Аўтар артыкула "Адзінота" Н. Бунцэвіч мае рацыю — творчасць паэта калі з чым і параўноўваць, дык з музыкай, з сімфоніяй, у якой партыі асобных інструментаў зліваюцца і дапаўняюць адзін аднаго.

Абраная паэтам стылістыка патрабуе ад яго віртуознасці выканання. Каб была яго творчая задача выканана на менш высокім узроўні, мы б мелі яшчэ адну "фанэру над Парыжам". Каб на больш высокім — хто ведае — новы віток беларускай паэзіі. Пакуль што мы маем паэта Дранько-Майсюка, на якога, у сувязі з вышэйсказаным, навешваю "цэтлік" аўтаміфалагізаванага неамадэрніста (у адрозненне ад постмадэрністаў, якіх апякуе Валянцін Акудовіч).

Хаця моцна падазраю, што гэты "цэтлік" пратрымаецца не даўжэй за іншыя.

## ДАРЭЧЫ, ПРА ПРЫГАЖОСЦЬ...

Той жа Максіміліян Валошын сцвярджаў: "Калі для свету матэрыяльнага праўдзівы і неабходны прынцып дэмакратызму, то для свету духоўнага настолькі ж неабходны прынцып арыстакратызму". Згаданы прынцып для кнігі "Стомленасць Парыжам" актуальны. Гэта арыстакратычная кніжка. Але арыстакратызм яе — не "па крыві", а "ад розуму". Арыстакратызм адукаванага "разначынца", які не можа дазволіць сабе тыя разняволеныя, шакіруючыя ўчынкі, якія з боку князя ў дзесятым калене выглядаюць як пікантная прыхамаць, а з ягонага боку ўспрымуцца як сведчанне плебейства... Ці, прынамсі, ён так думае.

Леанід Дранько-Майсюк адлюстроўвае свет паслядоўна прыгожа, вытрымліваючы прынцып класічнага мастацтва, сфармуляваны Гегелем, якога з часоў вывучэння "трох крыніцаў" мы ўсе недалюбліваем: ідэал мастацтва — прыгажосць, мэта — гармонія, таму ўсё, што трапляе ў поле зроку мастацтва, эстэтызуецца, ператвараецца ў гарманічна ўспрымаемы аб'ект. У эстэтызацыі рэальнасці Дранько-Майсюк дэманструе сапраўднае майстэрства, у самым шырокім дыяпазоне, і нават дае свой варыянт вербалізацыі прадметаў і з'яў, якія могуць быць выяўленыя ненарматыўнай лексікай. Па вершах рассыпаны вобразы, якія можна трактаваць як фалічныя сімвалы, "падсвечнік бронзавы і свечка залатая", "галінка глогу, апушчаная ў сэрца, не вырываючы карэнняў" і г.д. Магчыма, гэтыя вобразы і не маюць па задуме паэта эратычнай афарбоўкі, але ў падсветцы наступнага апісання могуць яе набыць: "...чорная ружа, поўная гасціннай расы, авалодала адамавай сцяблінай і не супакоілася да той хвіліны, пакуль не напілася навальнічнага нектару..."

Праніклівы чытач мусіць здагадацца, што перад ім — апісанне фізіялагічнага акту кахання. І як тут не згадаць словы-папярэджанне самога аўтара: "Прыхільнікі "праўды" ў літаратуры — вы ўздыхаеце, што мая паэзія нежыццёвая, бо занадта прыгожая".

Але праўда і ў тым, што "занадта прыгожага" не бывае.

Ёсць прыгожае — і не.

Паэт, традыцыйна ставячы эстэтычны прынцып над усім астатнім, падымае на верх сваёй шкалы каштоўнасцяў знітаваны з эстэтычным этычны прынцып. Але — не ўраўнаважвае іх. Таму і з'яўляюцца дакоры-расчараванні ў паказе паэтавай "амаральнасці"...

Але маральнасць — гэта для іншай стылістыкі. Калі стылістыка — галоўнае.

## ДАРЭЧЫ, ПРА МІФ...

Усе паэты міфатворцы ў той ступені, у якой ім удаецца стварыць свой варыянт свету. Гэта не ўласна неаміфілагічная традыцыя, якая ўзнікла на пачатку стагоддзя. Гаворка — пра ўласцівасць мастацтва да непазнавальнасці, адзінкавасці пераўвасабляць рэальнасць пры захаванні адчування рэальнасці. Свет, які паўстае ў зборніку "Стомленасць Парыжам", сапраўды прыгожы, хаця наконт адчування рэальнасці можна паразважаць... Месцамі яна відавочна падменена дэкарацыямі (а можа, і паўсюль? Памятаеце прыведзенае меркаванне пра тое, што паэт у Парыжы не быў). Але паколькі свет кнігі містыфікаваны, штучнасць, гульня, карнавал у ім прадугледжаныя. Можа быць, для таго, каб міф зрабіўся рэальным, аўтару не хапае менавіта "расколіны ў сэрцы", як у яго ўлюбёных паэтаў, трагічнага разладу ў свядомасці між рэальнасцю і марай. Але жадаць, няхай і паэту, — праклёну, трагедыі, пакуты —абсурд, тым больш што паэты набываюць гэтыя атрыбуты па-за ўласным жаданнем. Удалося камусьці захаваць свой духоўны свет цэласным, гарманічным — віншую і зайздрошчу, няхай той спакой уяўны. І нездарма так непакоіць паэта ім самім вызначаны ўзроставы цэнз для паэтычнай творчасці — сорак гадоў... Старэнне, прыгасанне эмоцый, звязанае з імі непрыгожае сапраўды могуць унесці ноту дысгармоніі ў паэтавы свет. Вобраз, старанна выбудаваны, пачне рассыпацца, асядаць, ператварацца ў пародыю... Але і гэтая дысгармонія ўяўная і ў трагедыю, хутчэй за ўсё, не перарасце, чаму маем шмат прыкладаў як у сусветнай, так і ў айчыннай гісторыі мастацтва. "Стомленасць Парыжам" — не дэкаданс, гэта паэзія жыцця, сапраўды вакхічная.

Застаецца пад пытаннем адно — як удасца паэту далей працягваць сваю містыфікацыю, наколькі ўдасца разнастаіць яе і дасканаліць форму стылізацыі. Дранько-Майсюк сам вызначыў абавязковыя для ацэнкі сваёй паэзіі найвысокія меркі. Было ўжо ратаванне Грэцыяй, была стомленасць Парыжам... Што далей? Скандынавія? Амерыка? (Індыю "захапіў" іншы паэт).

Але паспрабуем абстрагавацца ад перспектыў. Уявім, што ўсё, напісанае паэтам дасюль, вызначана ім, як завершаны вобраз.

Мне здаецца, "Стомленасць Парыжам" можа прэтэндаваць на завершанасць. Гэтая кніжка ў кантэксце творчасці аўтара самадастатковая — у ёй сказана ўсё, што ў папярэдніх зборніках, у сканцэнтраванай форме, і крыху больш таго. Там можна вычытаць і творчы маніфест, і спробы аўтатлумачэння, і суцэльную аўтаміфалагізацыю, пра якую ўжо згадана. Прынцып "кнігі кніг", мадэрнізму, дазваляе выявіць сваю эрудыцыю, прадэманстраваць уменне канструяваць рэальнасць. Форма дзённіка дае шлях экзістанцыйным выяўленням. Стылістыка літаратурнай містыфікацыі разнявольвае фантазію.

Не ведаю, якімі будуць наступныя зборнікі паэта Дранько-Майсюка. Няхай там будзе не "фанера над... Амерыкай", а "небо в алмазах". "Помнікі разбурае стыхія, час або знішчаюць людзі. Але ж у паэтавым скверыку стыхія не шалела, і час не паспеў сабраць сваю разбуральную сілу".

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

---

падлетак паўстае і супраць прыгнятальніка, і супраць усяго паднявольнага жыцця. Ён збягае з "парната", яшчэ не здагадваючыся, у якіх праявах давядзецца яму зведаць новы свет. А яны, гэтыя праявы, пачынаюць адольваць Мар-хера — так дражнілі героя ў школе — з самых першых крокаў на свабодзе.

Спачатку прыніжэнне вясковымі хлопцамі. "Вось яна, воля. І тут тое самае: хто мацнейшы — той і пануе". Затым спасціжэнне таямніц "дарослага жыцця". Міцька, які толькі-толькі пачынае адчуваць сваю мужчынскую прыроду, адкрываць сябе, вымушаны даведацца пра паталагічныя адхіленні натуры, пра парушэнне ў інтымнай сферы адносін чалавечага роду. І якімі б прыгожымі словамі аб мастацтве ні прыкрываўся Франц Іосіфавіч, як даходліва (бо на практыцы) ні даносіў да юнака азы сексуальнай граматы, "шчасце страсцей" і абяцаная імі асалода не ў стане зменшыць разгубленасць, раскол свядомасці, холад і без таго знявечанай душы Міцькі. Наперадзе ў яго толькі "трывога за заўтрашні дзень, які пужаў яго невядомасцю і непрадбачанасцю", ды перакананасць, што для яго ў гэтым жыцці няма месца пад сонцам.

Мархель зайздросціць нават бяздомнаму Алегу, які і пры такіх умовах існавання не страціў здольнасці радавацца хараству яснага зімовага дня, магчымасці "жыць сваімі страсцямі, а не падладжвацца пад людское глупства". Жадаючы дапамагчы новаму сябру забыцца на ўсё, Міцька вырывае на вуліцы з рук незнаёмца бутэльку віна. Але для таго, як і для Алега, яна, мабыць, вельмі патрэбная, бо мужчына з усіх сіл гоніцца за хлапцом. Калі ж у пошуках паратунку Мархель апынецца пасярэдзіне ракі ў палонцы, ён не прыме працягнутай для дапамогі рукі свайго нядаўняга ворага. Яго надломленая непераадольнымі выпрабаваннямі свядомасць раптам выкрэслівае-нараджае полымя, як яму здаецца, выратавальнай думкі. "Самая вялікая страсць — перамагчы смерць — адмовіцца ад жыцця. І калі ён прыме дапамогу, значыць, так і застанецца рабом".

Магчыма, нехта пашкадуе генія смерці, якому каханая адкажа ўзаемнасцю ўжо ў новым жыцці ("Геній смерці"). Некага кране гісторыя подзвігаў і вяртання Георгія Пераможца ("Перамога ценю"). Іншыя захопяцца даволі неардынарным тлумачэннем невідушчасці Гамэра і нечаканасцю некаторых сюжэтных хадоў яго бессмяротнай "Іліяды" ("Адрачэнне ад цемры"). Пошукамі ісціны, сэнсу жыцця зацікавіць герой апавядання "На кругі свая".

Тым не менш перад усімі імі найвыразней бачыцца не прытулены нікім, поўны горкіх расчараванняў Міцька Мархель. Свет адкрыўся перад ім толькі жорсткасцю і бяздумным уладкаваннем. Адвергнуты людзьмі, герой, па сутнасці, сваім адыходам адвяргае кожнага з нас. Адыходзіць, не дачакаўшыся набыцця мудрасці праз мудрасць пражытых гадоў, маўкліва, не пытаючыся "за што"? І слязінкі на яго шчацэ не заўважыў ніхто. Ды й ці быў увогуле хлопчык?..

Між тым трагічная напоўненасць гэтага вобраза раз-пораз праяўляецца ў іншых героях пісьменніка (напрыклад, у хлопчыку, які марыць скінуць панцыр, з апавядання "Перад маімі вачыма"...), кідае адпаведны водсвет на ўвесь змест кнігі, не зацямняючы, а толькі адценьваючы астатнія (да прыкладу, гісторыка-гераічны, выразна-сатырычны, алегарычны) стылёвыя пласты яе.

Шматлікія літаратурныя і рэчаісныя рэмінісцэнцыі ўгадваюцца ў так званым зборніку гістарычных дакументаў "Як стаць маршалам". Перад намі сапраўдная дэкларацыя-інструктаж па авалоданні навукай падхалімажу, угодніцтва, умення ціха і бязбедна жыць за кошт іншых. А галоўнае, усё, што адбываецца ў Крайсветным лесе, вельмі ўжо адпавядае нядаўнім і сённяшнім дням, "разгулу дэмакратыі". Дарэчы, як і лозунгі, якія прамаўляюць тамтэйшыя ўладары. Паўторым некаторыя з іх: "Чакайце — можа, чаго-небудзь і дачакаецеся"; "Штодня нам весялей жывецца"; "Хай вецер перабудовы дыхне і ў нашым лесе". І невядома, куды прыімчыць славуты гістарычны браняпоезд пад кіраўніцтвам усякіх Даздрапермаў з дапамогай Перкосракаў, якія вынікі дадуць выбары, рэферэндумы, сацыяльныя апытванні пры поўным паслушэнстве розных катоў, янотаў, таракашаў.

Бессэнсоўнасць, вострае адчуванне яе не толькі характарыстыка душэўнага стану абцяжаранага пачуццём віны перад паміраючай маці аднаго з герояў кнігі Анатоля. Бессэнсоўнасць — адзнака ўбоства і змізарнеласці ўсяго нашага жыцця. Іншы, як мастак са "Свята бласлаўлёнай дарогі", у гэтай сітуацыі здольны пачуць звон, што раптам азавецца "на вежах цудам ацалелага храма". І тым самым выратуецца ад адзіноты, ад бязвер'я. Другому ўжо ніколі не пазбавіцца адчування спрычыненасці (і не важна, прамой ці ўскоснай) да смерці самага блізкага чалавека ("Надзея на апраўданне"). А вось, скажам, Супермена з апавядання "Пакуль не сціхне дождж" узвядзе на шлях перасычанага матэрыяльнымі шчадротамі і сексуальнай уседазволенасцю жыцця лжэвелічнасць і падманнасць ідэалаў. Выходзіць, шчасце ў нечым іншым. Надыдзе момант, і Кузьма пранізліва адчуе: "Ён — выгнаннік сённяшняга дня, і нічога ў яго не засталося, апроч маленства — там яго чакаюць, там радзіма і дом".

У крытыцы часта гучаць дакоры ў адрас творцаў за злоўжыванне матыву вяртання, якім вылечваюцца іх героі пасля таго, як страцілі лёсавызначальныя арыенціры ў віры хуткаплынных дзён. Але што рабіць, калі ў жыцці мы найчасцей выратоўваемся праз вяртанне: вяртанне да роднай хаты, бацькоў, маленства, успамінаў ці нечага яшчэ.

Гэтак жа і Супермен. Міжвольна ён імкнецца ў край дзяцінства. "Трэба было паспець трапіць на вясёлку", "трэба спяшацца падняцца на яе, каб быць шчаслівым".

...Цалкам магчыма, што аднойчы пасля дажджу той з вас, хто ўмее бачыць, заўважыць недзе на фіялетавай смуткуючай стужцы вясёлкі не толькі Супермена, але і самога пісьменніка. Тады паспрабуйце запытаць ці проста заўважыць:

— Я думаю, ты закамплексаваўся ў смакаванні сваёй адзіноты і смутку. Як бы любуешся імі...

І не здзіўляйцеся, калі пачуеце ў адказ:

— Чаму закамплексаваўся?.. Мы ж усе адзінокія.

На гэта не запярэчыш. Кожны з нас пасвойму адзінокі. Кожны адзінка, але ж не нуль, воляй якога можна маніпуляваць. Асабліва спецыялістам з сумна вядомага зязюлінага гнязда. Варта задумацца пра тое.

**В. ШЫНКАРЭНКА**

*г. Гомель*

---

Бліц-крытыка

# ГЭТА НАШ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКАРБ

***Сёння ў рубрыцы — выказванні пра "Дзённікі" Максіма Танка, надрукаваныя ў часопісе "Полымя" (NN 9, 10 за 1996 г.) прыводзім спіс тых, хто ўдзельнічаў у апытанні, у алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў: Валянціна Аксак, Алесь Бадак, Пятро Васючэнка, Адам Глобус, Таіса Грамадчанка, Леанід Дранько-Майсюк, Ала Канапелька, Уладзімір Марук, Алесь Пашкевіч, Алена Яскевіч.***

Ёсць цікавыя мясціны, але ўвогуле я быў расчараваны, бо многа пра гэтыя "Дзённікі" чуў, быў настроены на нешта выбітнае. У параўнанні з "Лісткамі календара" нашмат слабей. Як філосафа, асобы — я аўтара не ўбачыў.

●

У "Дзённіках" паўстае вобраз чалавека, якому балела. Балела за свой народ, за яго культуру, што, дарэчы, не заўсёды можна ўбачыць у яго творах, што друкаваліся ў той час.

●

Публікацыі любых дзённікаў заўсёды чытаю з задавальненнем, а Танка — асабліва, бо мне цікава, адкуль ён узяўся, як паэт, цікава прырода яго таленту, што ён чытаў, чым сам цікавіўся.

●

Можа, таму, што маю даволі павярхоўнае ўражанне, засталася незадаволенасць ад прачытанага. Мала філасофіі, шмат нязначных побытавых дэталяў. Перакідваўся са старонкі на старонку ў пошуках істотнага, мабыць, і згубіў тое істотнае. У параўнанні з "Лісткамі календара" эстэтычна "Дзённікі" значна ім саступаюць.

●

Гэта наш нацыянальны скарб. Танк — класік. Усе яго дзённікавыя запісы трэба выдаць асобна, аднесціся да іх з грунтоўнай павагай.

●

Сапраўдны дзённік мусіць пісацца для сябе, і, адпаведна жанру, не ўтрымліваць хлусні пра сябе. І Танк, калі пісаў гэты свой дзённік, відаць, і не думаў яго друкаваць. Я — за такія дзённікі, якія могуць шмат расказаць пасля смерці аўтара пра яго асобу.

●

Не чытаў. Мяне той перыяд беларускай літаратуры мала цікавіць. Я — эгаіст, і для мяне цікава толькі тое, што мае адносіны да мяне асабіста.

●

Відаць, чалавек пісаў шчыра, спавядаўся. Пасля прачытання прыходзіць усведамленне, што Танк — асоба, якой у нас яшчэ доўга не будзе. Шкада, што ён у многім быў зняволены.

●

Хоць і выказаўся Максім Танк яшчэ ў 1950 годзе аб тым, што яго "Дзённік... — гэта шлях з верставымі слупамі — паказальнікамі", усё ж думаецца, што гэтыя яго запісы — найперш шчыры экскурсавод па паэтавай творчай дарозе. І дзякуй Богу, што не адпрэчыў, не "скараціў" Максім Танк (як раілі яму сябры) гэтага шматгадовага "гіда" — у паэтавым кніжным музеікініі ягоны дзённік — праваднік самы надзейны...

●

Гэта не для друку. Аднастайна, з дня ў дзень апісвае, як рабіў адно і тое ж.

**Наступным разам для абмеркавання прапаноўваюцца "Зацемкі" Леаніда Галубовіча, якія друкаваліся на старонках перыядычнага друку. Нагадваем, што аўтары адказаў маюць права патрабаваць, каб іх адказы падпісваліся. Выказаць сваё меркаванне можна, патэлефанаваўшы рэдактару аддзела крытыкі "ЛіМа" Людміле Рублеўскай па тэл. 233-19-85.**

# ПРАВАДНІК КУЛЬТУРЫ

**Днямі атрымаўшы запрашэнне на адкрыццё нямецкага культурнага цэнтра Гётэ ў Мінску, я зрэшты падумаў: ці не запозненае адкрыццё, сам жа Цэнтр пачаў дзейнічаць летам 1993 года з прыездам яго дырэктара пані Веры Багальянц. Помню недзе на пачатку верасня таго года нямецкі перакладчык, вялікі сябра беларускай літаратуры Норберт Рандаў запрасіў мяне ў гасцініцу Акадэміі навук, дзе і адбылося знаёмства з пані Багальянц і абгаворвалася ідэя аб размяшчэнні Цэнтра ў Доме літаратара. А ўжо вясной 1994 года Цэнтр і пачаў функцыяніраваць у пісьменніцкім доме. Тры мінулыя гады ўсталёўвалася гаспадарка Цэнтра, вырашаліся кадравыя пытанні і ўжо пачалі ажыццяўляцца культурныя праграмы па тэатры, кіно, жывапісе, фотамастацтве. Другі важнейшы кірунак Цэнтра — арганізацыя курсаў нямецкай мовы, дапамога выкладчыка германістам, распрацоўка навучальных матэрыялаў, зместу іспытаў і вучэбных планаў разам з мясцовымі адукацыйнымі ўстановамі, вызначэнне стыпендыятаў для павышэння кваліфікацыі і інш. Трэці накірунак — бібліятэчная справа.**

**І вось, пачынаючы з сёлетняга кастрычніка, грамадскасць Мінска мае магчымасць карыстацца ўсімі паслугамі ўзорна наладжанай бібліятэкі Цэнтра. Трохгадовы перыяд фарміравання нямецкага культурнага цэнтра Гётэ нарэшце завяршыўся. Днямі адбылося яго афіцыйнае адкрыццё.**

**У лісце Іахіма Зарторыуса, генеральнага сакратара інстытута Гётэ (Мюнхен), у склад якога ўваходзяць 150 такіх культурных цэнтраў свету, у выступленнях пасла Германіі Готфрыда Альбрэхта, міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіля Стражава, намесніка міністра культуры Уладзіміра Рылаткі, дырэктара Цэнтра пані Веры Багальянц узнімаліся розныя пытанні мінулага і цяперашняга жыцця нямецкага і беларускага народаў: уклад культуры ў спыненне халоднай вайны, неабходнасць пабудовы агульнаеўрапейскага дома, далейшага наладжвання нашых эканамічных і культурных узаемаадносін.**

**Свае мерапрыемствы Цэнтр праводзіць у цесным партнёрскім супрацоўніцтве з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, рознымі культурнымі ўстановамі, у тым ліку з Нацыянальным мастацкім музеем, Беларускай федэрацыяй "Кінаклуб", з пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі культуры. Пісьменніцкай грамадскасці асабліва добра запомніўся вечар паэтак Эльке Эрб (Германія) і Ніны Мацяш (Беларусь), праведзены ў Доме літаратара пад дэвізам "Паэце, дзякуй за верш!"**

**Мне, як супрацоўніку Саюза беларускіх пісьменнікаў, хочацца пажадаць калегам з Цэнтра плённага нямецка-беларускага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах культуры і не менш шырока — у літаратуры, бо як сказана ў святым Пісанні: "На пачатку было слова".**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

# ДРУГІ ТОМ "БЕЛАРУСКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ"

**У выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выйшаў чарговы, другі па ліку том Беларускай Энцыклапедыі, якая, як вядома, запланавана ў 18 тамах. Ён увабраў у сябе матэрыялы ў межах слоў "Аршыца" — "Беларусцы". Першае — назва ракі ў Аршанскім раёне, а "беларусцамі", як вядома, называлі рознаэтнічнае насельніцтва Белай Русі (жыхароў Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і часткова Мінскага ваяводстваў Рэчы Паспалітай, а таксама заходняй Смаленшчыны, паўночнай Чарнігаўшчыны, паўднёвай Пскоўшчыны. Гэтая назва ўжывалася ў афіцыйных дакументах рускай дзяржавы ў XVII—XVIII стст., а ў XIX ст. яна трансфармавалася ў этнонім "беларусы".**

**Том багата ілюстраваны — змешчана 927 ілюстрацый, у тым ліку 142 партрэты, 58 картаў.**

# І ПІСЬМЕННІКІ ЛЮБЯЦЬ ПЧОЛ...

**Што ўсе — не будзем сцвярджаць, а вось што паэт Павел Вераб'ёў іх любіць (і мёд таксама!) — сумнявацца не даводзіцца. У свой час ён скончыў Смілавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум па спецыяльнасці "пчалярства". Прафесію, праўда, неўзабаве памяняў на журналісцкую, ды з пчоламі не развітаўся. Але адна справа — трымаць іх для сябе і іншая — дзяліцца сакрэтамі з іншымі. Так і нарадзілася ў П. Вераб'ёва ідэя выпуску спецыяльнага выдання. Нядаўна ў газетных кіёсках і паявіўся першы нумар газеты "Человек и пчела", заснавальнікам і галоўным рэдактарам якой і з'яўляецца П. Вераб'ёў. Газета разлічана на ўсіх, хто любіць пчол, жадае займацца іх развядзеннем, хоча лепш ведаць усё, што тычыцца пчалярства.**

Павел МІСЬКО



# ТУТ, ПАД РОДНЫМ НЕБАМ...

## БЕЛАВЕЖСКАЕ

**Блытаўся ад стомы ў сцежках-павуціне,
Што звяры снавалі не адзін мо год,
Раздзіраў гушчэчы колкае шчацінне,
Ці паднырваў,
быццам пад калючы дрот.
"Немарач якая... Во залез у нетры...
Як не ў нашым лесе, а ў глухой тайзе..."
Пах дзіка пачуўся, патыхнула з ветрам.
"Недзе ж лёг-стаіўся...
Дзе ён толькі, дзе?"
Не паспеў падумаць...
Вепр як вухне-рохне,
Быццам чорны выбух страсянуў кусты.
Трушчыў дзік падлесак гнуткі,
пруткі, крохкі,
І праз хвіляў колькі след яго прастыў.
Пёр і я з імпэтам у другім напрамку
(Чуў жа баек многа пра дзікову люць!),
На паляну сонца ірвануў я брамку...
Вось дзе можна ўпасці,
можна адпачнуць!
Дагары зваліўся на духмян чабору,
Дзе матыль-завея, дзе цымбал-пчала.
Чуў, як рык зубрыны вырываўся
з бору,
Як рачулка булькат-гутарку вяла.
Дыхаю ўсё болей я спакойна, ціха,
Сэрца ад лагоды млее, растае,
І, здаецца, знікла на зямлі ўсё ліха,
І даўно ўсім людзям усяго стае.
Я раскрыжаваўся на зямлі радзімай,
Быццам быў прыбіты, рукі —
чым шырэй!
Што яшчэ зрабіць мне для яе, ранімай?
Як далей павесці свой жыццёвы рэй?
Я ўсяго казюрка...
А каб мог, каб здолеў,
Затуліў сабою б ад усіх нягод.
Дзякаваў бы Богу за такую долю,
Славіў бы Хрыстовы на зямлю прыход.
Раскрываю вейкі... Знік ружовы полаг...
Сонца — стрэл сліпучы
аж да дна вачэй...
Я саджуся. Тонкі матыльковы шолах
Бас чмялёў калматых заглушае ўшчэнт.
Булькае не рэчка, а ручай-крынічка,
Хоча прыхавацца вунь у тым бары...
Ну а што ж так пахне
з болем настальгічным?
Не суніцы, іх тут — колькі хоч бяры.
Не чабор вішнёвы, дзе п'янеюць пчолы,
І не верас ломкі, ён шчэ не цвіце...
Я папоўз на ветрык, нахіліўшы голаў,
Нюхаю ўсю зелень, што наўкол расце.
Кусцік нейкі... Пырнік?
Не, відаць, мятліца...
Лісце далікатна, стромка мкне ўгару.
Я схіліўся... Божа! Як тут не здзівіцца:
Траўка гэта сніцца кожнаму зубру!
Праўду, а мо казкі лесаўчане баюць
Пра траву зуброўку, пра саміх зуброў,
Быццам яны сілу ад зуброўкі маюць,
Ім яна бунтуе ў дзень вясновы кроў.
Быццам гэта траўка
з пушчы Белавежы
Не дае забыць ім родны свой куток,
Бо зубры і пушча — вечная залежнасць,
Адысці не могуць з пушчы ні на крок.
З былкаю зуброўкі сеў ля ручаіны.
"Зайчыкі" пярэсцяць лісце на кустах..
О, каб той зуброўкаю, любая краіна,
Твой прастор шырокі на вякі прапах!
У зуброў нам, людзі, павучыцца трэба.
Адганяюць заедзь — рой густы спакус,
Дома застаюцца, тут,
пад родным небам...
...Дзе цябе не стрэнеш, братка-беларус!**

## МНЕ ОТМЩЕНИЕ И АЗ ВОЗДАМ...

**Не, не спіць мужычок,
бо вясна на дварэ,
Сонца грэе бачок,
конік борзда арэ,
Дый сусед ужо сее зацята, упарта.
Чым найбольш, на захоп,
і не трэба падкоп.
Ёсць у "зону" праход,
пакажы толькі "код" —
Перад поўнай бутэлькай
не ўстоіць і варта.
Чалавек, чалавек!..
Хіба робіш на здзек?
Не шкадуеш сябе,
усё мала табе...
Што — не сам спажывацьмеш атруту,
нукліды?
Дык каму ж ты арэш,
плугам дзёран дзярэш?
Супыніся, пастой,
калі ты з галавой,
Не вычэрчвай плужком
аксіёмы Эўкліда!
Прах з-пад плуга курыць..
Баразна к баразне...
Як ратая спыніць?
Памажыце вы мне!
Ён жа брацкую ўсім нам магілу капае!
Ці ўжо свету канец?
Размахаўся касец
І пракосы кладзе,
як у Судны той дзень,
І галовы ляцяць, імі дол высцілае...
Чалавек, чалавек...
Не ствараў Бог калек.
Быў разумнік Адам,
жонку Бог яму даў
Прыгажуню,
не знойдзеш такіх у прыродзе.
А як склаўся народ,
то пайшло ўсё на звод,
І ляцім, як з гары, —
"Чорт усё пабяры!" —
І штодзень касяком у магілы сыходзім...**

## АПАКАЛІПСІС

**Бяздожджыца, бяздожджыца,
Спякота і сухмень...
Як млосна, як ён доўжыцца
Нясцерпны летні дзень!
Не думалі, не цямілі,
Куды ўсё прывядзе,
З апошняй балацявіны
Адкрылі шлях вадзе.
Парэпіны-расколіны...
Іду — кару ламлю...
Як рак — грызе паскорана
Эрозія зямлю.
Зямелька, маці родная!
Як церпіш гэта зло?!
Не бомба вадародная
Табе прынесла тло.
Пра бомбу — лішне сказана...
Ці ж можа што цвісці,
Дзе здушана ўсё газамі,
Дзе едкі смог вісіць?
Гараць палі балотныя,
Лясы пылаюць скрозь,
Кідае сцежкі родныя
І крот, і рысь, і лось...
Маўчлівай чорнай хмараю —
Як нашыя грахі —
Адною скуты мараю,
Ляцяць, ляцяць гракі...
Пра вырай зноў успомнілі?
Было ж — забылі "рай"...
Куды ж падацца гомінус?
Кладзіся, памірай?
Ляціце, неразумныя,
Абы вам, каб ляцець.
А нам куды ў дні судныя?
Як людзям ацалець?
Чуць крыкі паднябесныя,
Як звон той вечавы
Расколаты, надтрэснуты, —
То плачуць журавы.
А гусі мае, лебедзі —
Бы лісце ў лістапад...
І ў небе смерць загледзелі:
Ападваюць назад.
Не гусі ўжо, камлычыны...
Дзе ваша пер'е, пух?
Няўжо каму пазычылі?
А самі —
бух,
бух,
бух...
А я ж прасіў, замучаны:
"Мне скіньце па пярцу!"
Не для сябе — для ўнучачак...
Мне што... Я ўжо к канцу...**

*"Усё, што існуе — ёсць сон;
усё, што не сон — не існуе"*
**Маседоніё Фернандэс.**

Можаце мне паверыць: гэтая гісторыя ўзятая з жыцця. І я мог бы назваць той маленькі палескі гарадок, дзе яна адбылася, калі б не выселілі яго пасля Чарнобыля. Застаўся ён цяпер толькі на старых мапах. І я не хачу згадваць ягонае імя, каб не турбаваць памяць былых тубыльцаў, расселеных па розных кутках Беларусі. Зрэшты, думаецца мне, не надта істотна, дзе і калі гэта здарылася і ці здарылася наогул. Бо нават тыя, хто пазнае выпадак, ведаюць не ўсю праўду.

Дык вось, герой наш А. жыў у невялікім гарадку на поўдні Беларусі. Набліжаўся Міжнародны жаночы дзень 8-е Сакавіка і А. вырашыў парадаваць сваіх жанчын (жонку і двухгадовую дачку) добрымі падарункамі да свята. У іхнім гарадку была толькі адна вялікая крама — універмаг, дзе можна было набыць нешта вартае. Пасля працы і невялікага міжсабойчыка ў гонар заўтрашняга свята, А. развітаўся з жанчынамі сваёй канторы і пайшоў ва ўнівермаг. Пайшоў пехам, бо ў гарадку ўсё блізка было, ды і час дазваляў яшчэ прагуляцца — да закрыцця ўнівермага заставалася хвілінаў трыццаць.

Задаволены сабою, сыты і трохі прыбадзёраны чаркай, лёгка і шпарка крочыў А. да крамы. У галаве ягонай нейкая салодкая песня круцілася, накшталт : "А-а-а, а-а-а, а-а-а, а-а-а..." (улавілі мелодыю?). Ішоў А., забытыя словы песні прыгадваў, і раптам убачыў, што ў хату ягонае калежанкі па канторы Б. праз вакно нейкі мужчына лезе. Ужо і ўлез — азадак толькі тырчыць ды стаптаныя падэшвы чаравікаў. А. добра ведаў, што Б. засталася ў канторы (хвіліну назад у шчаку пацалаваў — павіншаваў і развітаўся), а муж ейны В. на тыдзень у камандзіроўку ў Магілёў з'ехаў і вярнуцца раней ніяк не мог — навошта такая радасць? "Злодзей лезе!" — натуральна падумаў А. і вырашыў прасачыць, што будзе далей. Сцішыўся ён каля плоту (а ўжо добра звечарэла) так, каб яго нябачна было, а хата Б. яму як на далоні была відна, і пачаў назіраць то за расчыненым вакном, то за замкнутымі дзвярыма.

Ішоў час, а з хаты ніхто не паказваўся. А. стаў ужо думаць, што прымроіўся яму той азадак мужчынскі, што ніхто і не залазіў у вакно. І чым больш ён так думаў, тым больш упэўніваўся, што і сапраўды нічога не бачыў, а проста віхлянулася фіранка ў расчыненым вакне. Блазен-ветрык пагарэзаваў... Зрэшты, не, нехта ўсё ж лез, бо вакно — расчынена. І гэта ў першыя вясновыя дні, калі снег яшчэ не ўвесь сышоў... "Ай, няхай самі разбіраюцца", — адчайна падумаў А. і нават рукой махнуў у такт думкам. Ды толькі памкнуўся падыбаць дамоў (спачатку зайшоўшы, памятаеце, ва ўнівермаг), як з-за фіранкі высунулася рука і ўказальным пальцам паклікала-паманіла яго да сябе, у хату. А. азірнуўся, быццам рука магла паклікаць не яго, а кагосьці іншага, хто стаяў за ім, і, нікога не ўгледзеўшы, сумеўся: яму не хацелася йсці ў хату. Вельмі не хацелася. То быў найперш страх, а потым прадчуванне нейкіх непрыемнасцяў... Але перамагла цікаўнасць і прыдуманая ўпэўненасць: то В. прыехаў з Магілёва, ключы згубіў і праз вакно ўлез, а цяпер яго ўбачыў і да сябе на пляшку паклікаў, знарок гэтак таямніча. З В. яны былі амаль сябрамі. Колькі разоў прыходзіў ён разам з Б. у кантору на міжсабойчыкі перад святамі, і А., перасіліўшы страх канчаткова, рашуча ступіў у двор.

Уваходныя дзверы былі зачынены. А. патузаў-патузаў іх за коўзкую ручку і агледзеўся. У вакне з'явілася тая ж рука і паказала, каб ён абыйшоў веранду і зайшоў з тылу. Там былі, успомніў А., яшчэ адны дзверы, праз якія выносілі корм жывёле.

"І чаго гэта В. выпендрываецца, — падумаў А., — чаго пальцам з-за фіранкі ківае, а сам не паказваецца?" — і паплёўся нехаця да другіх дзвярэй. Яны былі адчыненыя, бо адчыняліся знутры. А. штурхнуў іх і пераступіў парог. В. стаяў у паўзмроку голы, ("Вось чаму не паказваўся", — падумаў А.), спінаю да яго. І было ў ягонай постаці нешта не натуральнае, прыгледзеўся А., зусім не мужчынскае, а цалкам жаноцкае. Праўдзівей кажучы, не нешта, а ўсё: найперш тоўстыя ляшкі, крутыя і шырокія клубы (адразу бачна — шырэйшыя за плечы), мяккая, белая бабская скура і, нарэшце, доўгія валасы (гэта ў даўно лысага В.?)...

"Што за херовіна, — падумаў А., — чаму В. голы і да сябе не падобны?" Падумаў, і пачаў паціху адступаць назад, да дзвярэй, адно толькі не хрысцячыся, бо не ўмеў, ды і не ведаў, што ў такія моманты гэтак трэба рабіць.

І тады В. павольна павярнуўся... Гэта быў, вядома ж, не ён. Перад А. стаяла незнаёмая яму жанчына. У А. ад здзіўлення адвісла сківіца і палезлі на лоб вочы. Нават у паўзмроку было відаць, наколькі вабная і пекная была жанчына. І гэтая пекната нейкім чынам адганяла жах, які павінен быў апанаваць А. Ён адчуў раптам сябе мужчынам і толькі, забыўшыся на тыя

Барыс ПЯТРОВІЧ

# СПАКУШЭННЕ



абставіны, у якіх ён зараз знаходзіўся, забыўшыся на ўсё на свеце. Ці не ўпершыню ў жыцці бачыў ён гэтак блізка ад сябе (і даступна) прыгожую жанчыну (жонку нельга лічыць — бо якая там прыгажосць праз чатыры гады сумеснага жыцця...) А. ап'янеў раптам, перад вачыма ягонымі паплылі кругі, папоўз туман, яму падалося, што ён не стаіць на падлозе, а вісіць у паветры. Гэта доўжылася імгненне (менш, чымсьці вы чыталі) — якраз столькі, колькі жанчына паварочвалася. А. яшчэ вісеў у паветры ад нечаканае вабнасці гожага жаночага цела і твару, як жанчына загаварыла (яна, аказваецца, магла гаварыць!), такім, як сама, мілым, лагодным голасам, які звінеў і пераліваўся па верандзе, журчэў, нібы вясновы ручаёк.

— Чаму ты не ўлез праз вакно? — спытала яна, і гучала гэтае пытанне не строга, а ласкава і пяшчотна, як маці кажа малому, маленькаму, немаўляці...

А. маўчаў, як прысаромлены школьнік. Ды і што ён мог сказаць у сваё апраўданне?

— Праз цябе мы дарма страцілі гэтулькі часу... Мы і цяпер робім толькі тое, што губляем яго, — зноў загаварыла жанчына, — я чакала цябе так даўно, так доўга, што кожная хвіліна сталася венасцю...

— Хто ты? — спытаў А.

— Я твая мара, твой сон, тваё самае запаветнае жаданне... Не распытвай мяне доўга. Усялякі сон — не вечны. Салодкі — тым болей. ЁН можа скончыцца надта хутка, пакінуўшы толькі шкадобу...

"Няўжо я сплю?" — падумаў А. і ўшчыпнуў сябе за руку. Боль быў востры і натуральны.

— Ты не спіш, — патлумачыла жанчына, — гэта я з тваіх сноў...

"Няпраўда, — аспрэчыў жанчыну ў думках А., — я цябе бачу ўпершыню. Калі і сніліся мне жанчыны, дык значна маладзейшыя".

— У кожнага чалавека ёсць у жыцці такі момант, — працягвала жанчына, — калі самы патаемны сон раптам спраўджваецца...

Да А. падчас гэтае размовы паступова пачалі вяртацца пачуцці і магчымасць цвяроза думаць і разважаць.

— Калі ты мой сон, то чаму выбрала для спаткання гэтую веранду чужое хаты, чаму не прыйшла да мяне дамоў? — спытаў ён жанчыну.

— Куды? У тваю аднапакаёўку, дзе ўвесь час сядзіць дэкрэтная жонка?

"А й сапраўды, — пагадзіўся ў думках А., — там не да сноў на яве. Там ява — змрачнейшая за страшны сон..."

— А ты агледзься. Тут не так ужо і дрэнна. Даволі прыстойна... В. у камандзіроўцы. Б. пайшла да свайго хахаля і сёння заначуе ў яго... Нам ніхто не перашкодзіць. Ідзі да мяне, ідзі хутчэй... — паклікала жанчына і прысела на канапу.

"Калі гэта сон, — падумаў А., — то ў сне можна ўсё. Бо прачнуўшыся, не давядзецца адказваць за свае ўчынкі. Але што такое сон на яве? Гэта ява ці сон? Што найперш? Калі сон — усё зразумела. А калі ява?.. Я добра памятаю ўвесь сённяшні дзень, я памятаю, як сюды патрапіў, я ведаю, што мне трэба яшчэ зайсці ва ўнівермаг і купіць падарункі жонцы і дачцэ. Я памятаю ўсё да драбніц і адчуваю сябе самога рэальна ў рэальным свеце. Значыць, ява... Няўжо і сапраўды сёння тут матэрыялізаваўся мой самы запаветны сон? Няўжо я марыў адно пра тое, каб пераспаць з прыгожаю жанчынаю? І толькі?... Мне гэтак часта апошнім часам снілася мая вёска, старыя бацькі, знаёмыя з маленства мясціны. Чаму я не патрапіў туды, не прайшоўся босы па ўтаптанай сцяжынцы, па ласкавай аксамітна-халоднай траве, альбо па калючай пожні?... Чаму? Чаму, урэшце, не спраўдзілася мая мара пра новую, трохпакаёвую кватэру?.. Чаму?" — прыгадаўшы гэта, А. ўжо з непрыхаванай варожасцю зірнуў у бок жанчыны. Яна, здаецца, не заўважыла злога агню ў ягоным позірку і, перахапіўшы яго, зноў пяшчотна-ласкава паклікала А.:

— Ну, што ж ты стаіш? Ідзі, хадзі сюды... — і дадала зусім нечакана: — дурачок...

Бачна было, што яна не чакала гэткай ягонай нерашучасці, не была гатовая да яе і, мажліва, сама не ведала цяпер, як далей сябе паводзіць, каб канчаткова не адпалохаць яго. Дзе й падзелася яе ранейшая ўпэўненасць.

А. насупіўшыся стаяў насупраць яе, насупраць сваёй амаль здзейсненай мары. Мары?.. Такой дробязнай і несур'ёзнай — быццам і не ягонай. Недзе глыбока ў свядомасці ўсплываў успамін, што некалі з кімсьці нешта падобнае было: ці то ў кнізе прачытанай, ці то ў фільме бачаным... Там таксама спраўдзілася зусім не тое, чаго хацеў герой. Але ж той хацеў і нешта рабіў дзеля таго, а на А. звалілася гэтае "збыццё" раптоўна, як няшчасце.

Жанчына моўчкі сядзела на канапе, чакала яго, а сама (ці не ад хвалявання) не ведала, куды падзець рукі. Яны перашкаджалі ёй, яны былі лішнія. Калі б была яна апранутая, то паціху распраналася б цяпер і тым супакоілася і знайшла б выйсце. Да таго ж, распрананнем можна было б адцягнуць і ягоную ўвагу, адарваць ад назойлівых думак. Не асляпіць, як адбылося, а зачараваць. А так яна толькі збіла яго з тропу. І пра сон дарэмна сказала. Ці ж зразумець тое яму, вырванаму з жыцця, у якім галава была занятая зямным жаданнем, зямным клопатам: не спазніцца б ва ўнівермаг...

Я не ведаю, чые былі гэта думкі? ці жанчыны, ці А. Мажліва, я й сам прыдумаў іх цяпер, пракручваючы тую сітуацыю. Зрэшты, па вялікім рахунку, гэта таксама не істотна.

А. стаяў, міжволі склаўшы рукі крыжам на жываце, і пазіраў на жанчыну. З кожнай хвіляй яму ўсё больш і больш рабілася шкада яе — голай, бездапаможнай і разгубленай. "Ёй, пэўна, холадна сядзець вось так, у чым маці нарадзіла, — думаў ён, — мяне і ў касцюмчыку прабірае на халоднай верандзе вечар. А што калі падысці да яе і... прапанаваць пінжак, каб укрылася, сагрэлася?.. Не! Накінецца зараз, вопратку парве... Не! Гэта маньячка нейкая ці вар'ятка да Б. у госці прыехала і мяне да сябе заманіла... Ніякі гэта не сон..."

А. адступіў крок да дзвярэй. Ціха прамовіў, быццам развітваўся не з незнаёмкай, а са сваёю калежанкаю Б., зайшоўшы да яе на хвілінку запалак альбо солі папрасіць па-суседску:

— Пайду я. У мяне спраў сёння яшчэ мільён. Ва ўнівермаг трэба забегчы, падарункі жонцы і дачцы купіць. Дый дома гара клопатаў перад святам сабралася...

— Чакай... Ты гэта сур'ёзна? Ты не хочаш, каб спраўдзілася твая запаветная мара? Хоць бы адна мара! Ты адмаўляешся... Падумай, жывучы сярод людзей, штодзень штурхаючыся між іх, ты абрастаеш рознымі турботамі, якія з часам пачынаюць табе здавацца спрадвечнымі жаданнямі, а потым перарастаюць у тое, што ты называеш марамі: вось збяру грошай і куплю пыласос, а затым пераб'емся гадок з хлеба на квас і сценку набудзем. Як людзі... Хіба ж пыласос, сценка, кватэра — гэта мары? А я твая падсвядомая, найпраўдзівая мара. Прыгадай, колькі разоў прыходзіла я да цябе ў снах і мы мілаваліся і ніхто, нават твая жонка, якая спала побач, пра гэта і не здагадваўся. Дык то ж сон. Ён раніцай растаў, знік і ад яго акрамя, прабач за натуралізм — што нам саромецца, — акрамя мокрых трусоў нічога не засталося. А я тут, вось я, падыйдзі, абдымі мяне, прытуліся да мяне, гаротны мой, і ты адчуеш знаёмае гарачае цела, ты адчуеш жанчыну, якая кахае цябе...

А. не надта ўважліва выслухаў гэтыя палкія словы. Ён крыўдліва думаў сваё. І таму застаўся абыякавы да гарачага напору жанчыны. Да таго ж, у верандзе, як і на вуліцы, добра-такі сцямнела і ён ледзь бачыў жанчыну — яна здавалася яму нейкай шэра-жоўтаю плямінай. Зусім не жаданай, а так... А. націснуў на кнопку электроннага гадзінніка і высвеціў час — 20:05. Ва ўнівермаг ён ужо спазніўся. Жонка і дачка застануцца без падарункаў. І трэба ж было адкласці набыццё іх на самы апошні дзень... Забегаўся, затлуміўся на рабоце, ох-хо-хо, хо-хо... Цяпер дома ніякае апраўданне не дапаможа — будзе скандал, гвалт, крык... А. падняў галаву, угледзеўся ў жанчыну пытальна-злосна, маўляў, ну што яшчэ табе ад мяне трэба?

Жанчына быццам не заўважала ягонага позірку. Дзіўна ў іх атрымлівалася "доўгачаканая і жаданая" сустрэча. Замест таго, каб адразу сашчапіць абдымкі, яны перакідваюцца непатрэбнымі словамі, а час ідзе.

А. разумеў, што калі з'явіцца ён гэтак позна дамоў з пустымі рукамі, простым скандалам не абыйдзецца. Развод, не менш, запатрабуе жонка і пойдзе жыць да сваёй маці. З-за нейкага глупства... І справа тут не ў крыўдзе. Рэч у тым, што ёй і сапраўды цяжка цэлымі днямі сядзець у чатырох сценах. І чакае яна нейкай, хоць бы зусім малой радасці...

— Паслухай, — звярнуўся А. да жанчыны, — а ты не магла б выканаць адну маю просьбу?

— Якую?

— Дзіўна, мне ўвесь час здавалася, што чытаеш мае думкі, як бывае ў снах, я лічыў — ты ведаеш пра што я думаю.

— Я ведаю.

— Дык чаму ж ты пытаеш, што трэба выканаць?

— А ты лічыш, што ў тваёй галаве цяпер круціцца адна-адзіная думка?

— Пэўна, не. Але ж ёсць асноўная.

— Ты так лічыш? Ці ведаў ты, што тваёй асноўнай, найпатаемнай марай было пераспаць з такою жанчынай, як я? Ты думаў, што найважней для цябе цяпер хутчэй атрымаць кватэру. Аж не... На вось, атрымлівай сваю мару — мяне...

Жанчына, размытая ў цемры, стала зусім чужой, непатрэбнай А. і ён, набраўшыся нахабства, сказаў:

— А чаму ты лічыш, што ты была маім спрадвечным, патаемным жаданнем, сном, няздзейсненай марай? Калі б было гэтак, я даўно накінуўся б на цябе, ляжаў бы ў тваіх абдымках... Нехта там, — ён паказаў пальцам уверх, — відаць, памыліўся. Не хачу я цябе. На яве не хачу. А за сны я не адказваю. На яве я хачу зусім іншага. І жадаю зараз апынуцца на парозе сваёй кватэры і не з пустымі рукамі, а з падарункамі для жонкі і дачкі. Выконвай, калі ты здзяйсняеш мары!..

— Які ты смешны ў сваёй злосці... Падумай, з якой гэта нагоды я павінна табе падпарадкоўвацца? Я да цябе і целам і душой, а ты адрынуў мяне, а цяпер яшчэ і камандуеш.

— Ты заманіла мяне сюды. Ты забрала на непатрэбныя размовы мой час. Вярні яго мне. І болей нічога. Заплаці за страчаны час вяртаннем назад.

— Я магу заплаціць толькі сваім каханнем. Ідзі сюды і ты забудзеш пра ўсё. Пра час, падарункі, жонку... І зробяцца нікчэмнымі, смешнымі ўсе твае словы і бяссэнсавымі, непатрэбнымі клопаты. Ідзі і ўтапіся ўва мне...

А. падумаў, што гэта і сапраўды не сон. Бо ў снах сваіх ён заўсёды адчуваў сябе слабым, нямоглым, цалкам залежным ад абставін, якім ён не мог супрацiўляцца. Ён проста плыў па сюжэце сну. І ўвесь жах сну быў якраз у гэтым: у бездапаможнасці. Цяпер такога адчування не было. Яму здавалася, што гаспадар становішча менавіта ён, а не гэтая жанчына-сон. І ён рашуча сказаў:

— Давай запалім святло. Тут надта цёмна.

— Цемра — сябар маладых і закаханых. Цё ж не тваё гэта ўлюбёнае некалі выслоўе?

— Калі тое было... Ты ж ведаеш: з узростам чалавек не толькі старэе, але і змяняе звычкі.

— Ты стаў смялейшым з жанчынамі? Я не сказала б...

"У адным ёй не адмовіш, — падумаў А. — Яна мяне добра ведае. Адкуль? Хто яна?" — выпытаць тое ён і захацеў, забыўшыся на момант, што жанчына можа чытаць ягоныя думкі. Але тут жа прыгадаўшы гэта, ён зноў асунуўся, адчуў сябе побач з ёю імпатэнтам. Фізічным і інтэлектуальным... І ўсё больш А. пачало здавацца, што гэта ніякая не матэрыялізацыя ягонага сну, а проста розыгрыш. Жанчына зараз засмяецца, растлумачыць,хто яна і адкуль ведае яго, і ўсё стане на свае месцы. А калі гэта і ява сну (што зусім не выключаў А.), дык няхай другім разам будзе больш абачлівай і сустрэне яго па-іншаму. Сёння ж яму гэтая гульня абрыдла... А. павярнуўся да выхаду, ступіў крок...

— Чакай! — нечая халодная рука лягла яму на плячо. Жанчына была ў трох метрах ад яго, калі ён паварочваўся, і калі б нават яна скочыла ўслед, то так хутка не паспела б перапыніць яго. Ды і грукат у пустой верандзе ад скачка быў бы неймаверны. А тут ціншыня і адразу — холад рукі. У А. дрыжыкі прабеглі па ўсім целе, мароз пранізаў нутро, і зрабіўся ён нібы драўляным ад жаху.

— Чакай, — ужо лагодна сказала жанчына над вухам. — Не спяшайся. Проста пабудзь са мною. Мы ж ніколі больш з табою не ўбачымся. Надзеі на яшчэ адну сустрэчу няма...

"Ашчаслівілі мяне, называецца: сон збыўся, — падумаў А. — Я не хацеў бы, каб мне і снілася такое, не тое што — збывалася. І навошта я ў веранду гэтую сунуўся..." І тут раптам успомнілася яму, чаму ля хаты Б. ён спыніўся: убачыў, як у яе праз вакно мужчына нейкі ўлазіў. Дык што, і ў таго тут сёння таксама сны збыліся? З гэтай самай жанчынай? Дзе ж ён, шчаслівы, цяпер? Куды падзеўся? А. павярнуўся да жанчыны. Зблізку яна была надта гожай. Такой, што недзе гэтая гожасць няўлоўна пераходзіла ў пачварнасць. І рука ў яе была задужа халоднаю, і пальцы — доўгія ды кастлявыя.

Жанчына ва ўсе вочы пазірала на А., быццам хацела нешта ўнушыць яму, альбо прачытаць ягоныя думкі. А. сціпла апусціў павекі. Відаць (гэта зноў умешваюся я ў жаданні штосьці патлумачыць вам і сабе), не магла яна "прабіць" нейкую заслонутарчу, што акаляла А., каб цалкам авалодаць ім. Пастаяўшы яшчэ трохі, жанчына зняла руку з пляча А. і прамовіла:

— Такая ноч болей не паўторыцца. Хочаш, мы зараз з табою злётаем у Парыж альбо ў Нью Ёрк, пасядзім у найлепшай рэстарацыі. Хочаш — у Лондан махнём? А мо на Эйфелеву вежу? Альбо на Гаваі, Багамы?.. Дзе цёплае мора і высокае сонца. Пагуляем і вернемся. І ночы не пройдзе. Згаджайся. Больш такой мажлівасці ў цябе не будзе. Я ведаю. Павер мне. Скінь усе комплексы. Ты ж разумны хлопец. Забудзься. Раскрыйся. Адпачні.

"Вядзьмарка... — здагадаўся А. — Дык вось куды я патрапіў. На баль запрашае — Маргарыта, тваю маць..." І тут, у роспачы, мільганула ў ягонай галаве думка: "А, можа, і пагадзіцца? Безвыходнае ж становішча. Яна свайго ўсё роўна даб'ецца. Прынамсі, не адпусціць, пакуль не даб'ецца... А ў Парыжы, глядзіш, жонцы падарунак куплю. Там жа крамы ўсю ноч адчыненыя". А. пакорліва зірнуў на жанчыну і раптам зноў прыгадаў таго мужчыну, што ўлез у хату праз вакно. "Спытаю", — вырашыў ён.

— Ну дык што, ляцім? — перапыніла ягоную рашучасць жанчына.

Вось гэтага — ляцець — А. якраз пакуль і не хацелася.

— Калі ты ўсё можаш, — сказаў ён, — дык арганізуй спачатку інцімчык плюс выпіўку з закускай тут. Пагамонім, вып'ем, а там пабачым.

— Нарэшце, — раздобрылася, палагаднела жанчына, здаецца, нават ушыркі расплылася, — глядзі!

Яна падышла да далёкага, самага цёмнага кута веранды і быццам двума пальцамі, як фокуснік, пстрыкнула. Загарэўся цьмяны начнічок і высвеціў маленькі зграбны столік, на якім стаяла пачатая пляшка з імпартнаю наклейкай, заморская садавіна — бананы, пазнаў А., апельсіны, нешта небачанае раней шэра-зялёнае, карычневаваласатае і іншае невядомае. Далей — закускі з мясных дэлікатэсаў, рыбных — у А. слінкі пацяклі. Незразумела было толькі, якім чынам умяшчалася ўсё гэта на драбнюсенькім століку. І яшчэ, заўважыў А., начнічок высвятліў край канапы, якая заканчвалася глыбока ў цемры. А з-пад канапы — А. ажно перасмыкнула — тырчэлі босыя мужчынскія ногі... Зноў пабеглі халодныя хвалькі па целе А. і ён адчуў, як млосць коціцца да галавы. Начнічок паплыў перад вачыма А. "Значыць, не сплю..." — паспеў падумаць ён перад тым, як асеў на падлогу...

Прачнуўся ён на канапе. Над ім схілілася жанчына. Маленькі, колеру цела, і таму раней незаўважаны, крыжык, які звісаў з ейнае шыі, казытаў А. па грудзях, па твары. Ад гэтага казытання, а не ад слоў жанчыны, якія толькі цяпер пачуў, ён і прыйшоў у сябе. "Крыжык!" — здзівіўся А. — У вядзьмаркі?.." Жанчына, між тым, гаварыла пра А., але ў трэцяй асобе, быццам паведамляла пра яго камусьці, прагназавала ягоныя паводзіны, нібы экстрасэнс на выступленні:

— ... Зараз ён ачнецца, расплюшчыць вочы, і пачуе мой голас. Яму стане добра і лёгка. Мой голас яго супакоіць, як голас жонкі. Ён забыў ужо, дзе знаходзіцца і хто побач з ім. Ён думае, што побач з ім ягоная жонка і зараз яна ляжа да яго ў ложак...

Аднак А. не забыў нічога, і не збіраўся думаць, што побач з ім ягоная жонка. Ён бачыў перад сабою тую самую чужую, незнаёмую жанчыну, якую нават не ведаў, як завуць.

— Як цябе завуць? — слабым голасам спытаў А.

— Г., — назвалася імем жонкі жанчына.

"Г. дык Г., — абыякава падумаў А. — Хай будзе Г..." — і не стаў спрачацца.

*(Працяг на стар. 14—15)*

Віншуем!

# ТАКІХ ТЭАТРАЛЫ НЕ ЗАБЫВАЮЦЬ

Юрый Арынянскі... Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Упершыню на беларускіх афішах яго імя бліснула ў трыццаць дзевятым годзе. Рускі тэатр БССР паказваў прэм'еру "Падступства і кахання" Ф. Шылера, і ролю прыдворнага музыканта Мілера ў спектаклі выконваў малады тады выхаванец Маскоўскага тэатральнага тэхнікума (пазней ГІТІС). Які гэта быў самавіты і сапраўды таленавіты музыкант! Строгі бацька сваёй любай дачкі Луізы, ён з вялікай годнасцю папярэджваў біду, якую ў яго дом нясе прыгажун Фердынанд фон Вальтэр! Пра гэта мне апавядаў рафінаваны тэатрал Рыгор Бярозкін. А сам я адчуваў адметную сцэнічную прывабнасць гэтага тэмпераментнага і адмысловага майстра сцэны, калі захапляўся яго Паўлам Пратасавым ("Дзеці сонца" М. Горкага) або Андрэем Прозаравым у чэхаўскіх "Трох сёстрах", бязлітасна помслівым і разумным Макферсанам ("Рускае пытанне" К. Сіманава) або загартаваным армейцам Ермашовым ("Брэсцкая крэпасць" К. Губарэвіча), разважлівым "бацькам" у экіпажы маладых Сцяпанам Сердзюком ("Іркуцкая гісторыя") А. Арбузава) або насцярожана імпазантным і пагрозліва эгаістычным Карэніным у інсцэнізацыі славутага рамана Л. Талстога, каларытным Лабышам у драме "Папараць-кветка" І. Козела і нават безыменным сапёрам у "Людзях, якіх я бачыў" С. Смірнова...

Акцёрскія ўдачы Ю. Арынянскага пазначаны яго глыбока псіхалагічным і маральным асэнсаваннем чалавечай натуры і па-мастацку выразна акрэсленым грамадзянскім напалам. І ў сваёй рэжысуры ён, паводле тагачаснай паэтыкі сцэнічнага мастацтва, умоўна кажучы, дапытліва вытрымліваў лінію абуджэння сумлення ў герояў п'ес, якія жывуць і дзейнічаюць у розных гістарычных абставінах.

Але, Юрый Андрэевіч пераканаўны ў тым, што мастацтва толькі тым і служыць людзям, калі абуджае ў гледачах актыўнае пачуццёвае суперажыванне з персанажамі спектакля, якія ў самых нечаканых здарэннях і прыгодах адчуваюць выратавальны голас уласнага сумлення ці збавіцельную яго сілу ў хвіліны непазбежнага пакаяння. Па-акцёрску кідка і маляўніча раскрываў ён тое ў сваіх сцэнічных героях. І ў пастаноўках такіх твораў, як "Выклік багам" А. Дзялендзіка, "Сэрца на далоні" І. Шамякіна (разам з раманістам Ю. Арынянскі інсцэніраваў гэтую прозу), "Чалавек за бортам" Я. Пасава, яго рэжысёрская думка шукала ў арыгінальным драматургічным матэрыяле магчымасць паказаць у промнях рампы жывога чалавека з нязгасным агеньчыкам сумлення ў душы. Асабліва дарагія былі для яго рэжысёрскія тлумачэнні п'ес Л. Талстога, А. Чэхава, М. Горкага.

Не, я далёкі ад намеру гэтак вызначаць галоўную тэму творчасці таленавітага акцёра і рэжысёра. Справаю сказаць пра тое, чаму такія дзеячы сцэны западаюць ва ўдзячную памяць гледачоў-тэатралаў. Артысты ж, што працавалі пад кіраўніцтвам Юрыя Андрэевіча ў Мінску, Брэсце, Гародні і Гомелі, мабыць, помняць ягоную звыклую спасылку на любімага максімаліста: "Агіды варты не той, хто не дасягае мэты, а той, хто нікуды не імкнецца". Галоўны рэжысёр Арынянскі дадаваў, што сам гатовы зняць капялюш і пакланіцца акцёру, які здольны вось зараз і тут без якой-небудзь падрыхтоўкі паўстаць перад намі рымскім легіянерам з войска Цэзара, які ўмее насіць туніку і меч... або лясным салдатам-партызанам, што ў пошуму хвой чуе рэха далёкага ляскату танкавых гусеніц... або сучасным хірургам, які збіраецца ў аперацыйную і без слоў запэўнівае родзічаў хворага ў надзейнасці свайго ланцэта... Сам Ю. Арынянскі тое мог зрабіць адразу ж. Выразна, каларытна, з псіхалагічным апраўданнем кожнага руху.

Юрыю Арынянскаму спаўняецца 90 гадоў. Ён цяпер піша мемуары, у якіх вяртаецца на вулкі старога Брэста, на ўзбярэжную Нёмана, да слынных прыдняпроўскіх дуброў, да сустрэч з калегамі, разам з якімі ён аддана служыў праўдзе і хараству жыцця.

**Б. БУР'ЯН**

ЛіМ ЧАСАПІС

## МАЙСТАР

Яўгену ЦІХАНОВІЧУ — 85



**Знаёмства з творчасцю Яўгена Ціхановіча можна пачынаць з яго экслібрысаў. Некалькі трапных штрыхоў — і паўстае перад гледачамі вобраз Скарыны, Купалы, Міцкевіча, Багушэвіча... Гэта далёка не поўны спіс дзеячаў, увасобленых мастаком у кніжных знаках. Партрэтныя экслібрысы Ціхановіча сталіся прыкметнай з'явай у сучаснай беларускай графіцы, у іх ярка выявіўся талент мастака пераканаўча даводзіць партрэтныя характарыстыкі, яго прафесійнае валоданне графічнай тэхнікай.**

**Творчасць Яўгена Ціхановіча, якому 25 лістапада споўнілася 85 год, вельмі разнастайная. Выявіўся ён у графіцы, вядомы і як жывапісец. Аматарам мастацтва знаёма яго карціна "Партызаны ў разведцы" (1947) — класікай пасляваеннага жывапісу назваў яе доктар мастацтвазнаўства В. Шматаў. У ёй выявіліся найбольш выразныя рысы творчага падыходу мастака: натуральнасць і характэрная беларуская добрасумленнасць жывапісу. Нароўне з гэтым можна згадаць яшчэ дзесятак алейных работ Ціхановіча, пейзажы, ілюстрацыі да кніг. Персанальныя выставы мастака праходзілі па розных гарадах нашай краіны і за яе межамі. Я. Ціхановіч пастаянна ўдзельнічае ў міжнародных кангрэсах экслібрысістаў. Паказальны факт: у 1972 годзе ў венгерскім горадзе Дунайварашы адбылася выстава экслібрысаў Ціхановіча. Пасля яе закрыцця мастак падараваў гораду ўсе работы, калекцыя трапіла ў экспазіцыю карціннай галерэі. З гэтай нагоды Я. Ціхановіч быў абраны ганаровым грамадзянінам Дунайварашы. Мы яшчэ раз віншуем мастака з днём яго нараджэння і зычым яму плённай працы, здароўя, натхнення, радасці.**

*На здымку: Я. Ціхановіч у майстэрні.*

*Фота ЛІХТАРОВІЧА*

## СВЯТОЕ МЕСЦА



**Замкавая гара — месца свяшчэннае не толькі для тураўчан. Менавіта таму на ёй і вырашана было ўвекавечыць манумент у памяць ураджэнца Турава царкоўнага палітычнага дзеяча, пісьменніка, публіцыста Кірыла Тураўскага. У XII стагоддзі тут размяшчаўся адзін з сямідзесяці храмаў, была школа дойлідства.**

*На здымку: помнік К. Тураўскаму на замкавай гары ў Тураве.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

Кіно

# ВІД З ЧАРОЎНАЙ ГАРЫ

## ТЫДЗЕНЬ ШВЕЙЦАРСКАГА КІНО Ў МІНСКУ

***Швейцарыя — невялікая, добра ўладкаваная нейтральная краіна цэнтральнай Еўропы, якая асацыіруецца ў нашым уяўленні з гарадамі, дзе праходзяць мірныя канферэнцыі, месцяцца шматлікія банкі, вырабляюцца бездакорныя гадзіннікі, куды ездзяць турысты дзівіцца з экзотыкі азёр і іншых шчадрот цывілізацыі. Палітыкі спасылаюцца на гэтую краіну як на ўзор дэмакратыі, якая забяспечвае суіснаванне чатырох дзяржаўных моў (нямецкай, французскай, італьянскай, рэтараманскай). Менеў вядома пра культуры федэрацыі, падзеленай на кантоны, кожны з якіх мае сваю канстытуцыю. А на пытанні, ці ёсць там свая кінематаграфія або якія фільмы ствараюцца — наўрад ці пачуеш пэўны адказ...***

Дасведчаныя ў гісторыі кінематографа адшукаюць кінаслоўнік, дзе пазначана: у Швейцарыі ў 1918 годзе была ўтворана першая нацыянальная кінакампанія Л. Тамбе, у 20-я гады ў буйнейшых гарадах краіны (Берне, Базеле, Жэневе, Лазане, Цюрыху) было каля трыццаці кінатэатраў, у 1924 г. пастаўлены значны на той час мастацкі фільм "Паходжанне Канфедэрацыі" (аб Вільгельме Тэле). А 1929г. памятны тым, што ў Жэневе адбыўся Кангрэс незалежных кінематаграфістаў, у якім удзельнічалі вядомыя дзеячы савецкага кіно С. Эйзенштэйн, Г. Аляксандраў, Э. Цісэ. Апошні нават зняў для фірмы "Прэзенс" карціну "Жаночае няшчасце, жаночае шчасце". У наступныя гады ў Швейцарыі здымаліся фільмы дакументальныя, мультыплікацыйныя, ігравыя (да пятнаццаці ў год). Прозвішчы рэжысёраў А. Танера, К. Гарэта, К. Шампіньёна, Д. Шміда патрапілі ў абойму вядомых у Еўропе. У 80-я гады з'явіўся тэрмін "маладое швейцарскае кіно"... З 1946г.г. Лакарна стаў месцам штогодніх Міжнародных кінафестываляў (зараз яны праводзяцца ў іншых гарадах краіны — Жэневе, Ніоне, Салатурне, Веве — усяго ў 9-ці). Час ад часу асобныя швейцарскія фільмы траплялі ў праграмы міжнароднага Маскоўскага кінафестывалю, дзе некаторыя і мне даваялося бачыць. Эпізадычныя сустрэчы не маглі даць колькі-небудзь пэўнага ўяўлення аб кінакультуры краіны асаблівага статуса.

І вось у сталіцы нашай рэспублікі адбыўся Тыдзень швейцарскага кіно. Яго падрыхтавалі і наладзілі Швейцарскі культурны фонд "Pro Helvetia", кінавідэастудыя "Тацяна" СК Беларусі, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Кожны вечар з 12-га да 19-га кастрычніка ў кінатэатры "Перамога" дэманстраваліся фільмы, прывезеныя з Швейцарыі. І той, хто здолеў размеркаваць свой час, мог паглядзець каля дваццаці кінастужак, прадстаўленых фондам "Pro Helvetia".

Кінаманы з арыентацыяй на баевікі і шакавідовішчы, вядома, не знайшлі ў гэтай праграме для сябе спажывы, а тыя, хто хацеў даведацца пра аблічча невядомага кіно, змог гэта зрабіць. Найперш, ён пераканаўся, што ў Швейцарыі ёсць дакументальнае кіно, якое з павагай ставіцца да чалавека, распавядае пра яго ў розных акалічнасцях. Рэжысёр Алан Танер зрабіў героямі свайго фільма "Людзі порта" генуэзскіх рабочых, маракоў. Порт для іх не толькі праца, але і прастора жыцця, яны рамантыкі мора. Рэжысёр поўнаметражнага дакументальнага фільма "Пра-музыка" Цырыл Шлепфер прывёў нас, гледачоў, у маляўнічыя мясціны цэнтральнай Швейцарыі на свята народных музычных калектываў, і мы мелі магчымасць убачыць захапленні швейцарцаў, экзотыку краю, атуленаму гарамі з квітнеючымі лугамі і далінамі. Цірольскія песні, мелодыі, непаўторныя краявіды — не антураж, а жывая душа народа, краіны, неад'емнай ад іншых еўрапейскіх і ўсё ж своеасаблівай.

Колькі мы бачылі фільмаў, тэлеперадач аб Расіі, катаклізмах яе гісторыі, лёсу народа, дзяржаўных асобах рознага рангу і ў розныя часы! І пераважна — з негатыўным стаўленнем да ўсяго, што звязана з кастрычніцкай рэвалюцыяй 1917 года, з савецкім часам. Швейцарскія кінематаграфісты аказаліся больш паважлівымі да тых, хто жыў тады. Аўтары дакументальнага фільма "Матор наш", рэжысёры Сабіна Гізігер і Марсель Цвінген, выбралі адну маскоўскую сям'ю — вядомага драматурга В. Розава. Яго жонка, яе сястра, іх маці, якая пражыла больш за сто гадоў, дзеці дзяцей. Яны распавядаюць, як жылі, працавалі, чым захапляліся, што іх радавала і засмучала. Амаль кожны з гэтай вялікай сям'і меў дачыненне да тэатра — люстэрка свайго часу. Супастаўўшы іх шчыры і эмацыйны расповед з кадрамі хронікі, якая вызначала асноўныя прыкметы часу, яго дынаміку і "маторны" рытм, швейцарскія дакументалісты стварылі выразны вобраз краіны, гісторыя якой была драматычнай і велічнай, з правадырамі рознага кшталту. Апошнія з іх, Міхаіл Гарбачоў і Барыс Ельцын, вылучаны камерай з ахопленых энтузіязмам дэлегатаў XXVII — перабудовачнага з'езда КПСС. Стоячы адзін за адным, яны натхнёна спявалі "Інтэрнацыянал". А што неўзабаве здарылася? Кожнаму зразумела і без аўтарскага каментарыя. У кіназале Саюза кінематаграфістаў, дзе адбыўся прагляд фільма "Матор наш", рэжысёр Марсель Цвінген нагадаў, што фільм з'явіўся пасля амаль чатырохгадовага назірання за жыццём Расіі, сустрэч з масквічамі, старраннага адбору кадраў кінахронікі. Аўтары хацелі паглядзець на Расію без прадузятасці. І дамагліся гэтага.

У швейцарскіх кінематаграфістаў, як сведчаць паказаныя ў Мінску фільмы, наогул гуманнае стаўленне да людзей, у якіх бы акалічнасцях яны ні апынуліся. Спачуванне выклікаюць турэцкія эмігранты, якія нелегальна імкнуліся патрапіць у Швейцарыю, каб знайсці там лепшую долю. Фільм "Падарожжа надзеі" рэжысёра Ксаўе Калера заканчваецца трагедыяй сям'і: на цяжкім шляху праз горы паміраe сынпадлетак, захварэла маці, а бацьку арыштоўвае паліцыя. Не спраўдзіліся надзеі і іншых эмігрантаў. Стваральнікі фільма не вінавацяць іх, а спачуваюць ім. Адзін з найбольш драматургічна распрацаваных фільмаў праграмы — "Ягняты" рэжысёра Шупбаха. Драматычныя ўзаемаадносіны ў сям'і, дзе бацька — тыран, а дзеці з ціхіх і пакорлівых (нібы божыя агнецы) ператвараюцца ў зайбойцаў. Аднак сам працэс ператварэння недастаткова матываваны драматургічна, дзеці ўнутрана статычныя; драматызм вызначанай аўтарамі сітуацыі раскрываюць дарослыя — маці (Брыжыт Руан) і бацька (Рышар Беры). Дзякуючы ім карціна ўзнімаецца на ўзровень небанальных твораў (як тое сталася, напрыклад, з фільмам "Заўсёды і вечна" рэжысёра Саміра).

Я з цікавасцю глядзела стужкі без кінематаграфічных навацый "Пацалунак Тоскі", "Бітва каралеў", "Чароўная гара". Кожная з іх адметная зместам, а разам яны складаюць каларытную панараму жыцця натуральнага і "разыгранага" так, што на экране нібы сама натуральнасць. У "Пацалунку Тоскі" камера з замілаваннем сочыць за былымі прымадоннамі оперы і іх партнёрамі, якія і ў доме для састарэлых (пабудаваным у Мілане вялікім кампазітарам Вердзі) не расстаюцца з вобразамі, што калісьці стварылі на сцэне. Праз іх "блюзнерствы" і ўспаміны рэжысёр Даніэль Шмід і аператар Рэната Верта ўводзяць нас у чароўны свет музыкі Вердзі і Пучыні (опера апошняга "Тоска" і дала назву фільму-назіранню). У праспекце праграмы "Бітва каралеў" сцэнарысткі Катрын Эртоль і рэжысёра П'ер-Антуана Гіро прадстаўлена як "вострасюжэтная камедыя". Вастрыні асаблівай там не адчуваецца; бітва кароў-каралеў уражвае, а вайна маладой фермершы з мясцовай мафіяй не дужа; на карціну працуюць камічныя сітуацыі, лад жыцця фермераў з горнага паселішча. Вось праз такі антураж і пазнаеш краіну, яе людзей. І ў гэтым плане найбольш адметны фільм "Чароўная гара" Анкі Шмід. Розныя прыгоды здараюцца з тымі, хто ідзе да яе вяршыні. А яна вабіць то пераменлівай формай (адным нагадвае чароўны замак, другім егіпецкія піраміды ці проста вялізную цукровую галаву), то фарбамі. І пад гэтыя паўмістычныя пераўтварэнні вядзецца размова аб радзіме, яе вобліку. Гучаць цудоўныя цірольскія песні на горных дарогах, на пляцоўках ля падножжа гары-чараўніцы. Скарыстаўшы інтэрв'ю з жыхарамі краю, пейзажныя панарамы, мультыплікацыйныя здымкі кадраў-уяўленняў, Анка Шмід і аператар Чыра Капеляры дамагаюцца свайго — ствараюць вобраз загадкавага і чароўнага сімвала Радзімы, якой, паводле аднаго з персанажаў, нельга выракацца, каб не згубіць сябе...

На працягу шасці дзён кожны сеанс прагляду пачынаўся кароткаметражнымі дакументальнымі або анімацыйнымі фільмамі. Дакументалісты занатавалі воблік краіны праз ландшафты, народных музыкаў, што захаваліся ў аддаленых ад гарадоў кутках цэнтральнай Швейцарыі. Анімацыя цікавая тэхналогіяй выканання, арыгінальнай графікай, спробай спалучыць малюнак, адпаведны сцэнарнай сітуацыі, з вобразамі філасофскага зместу ("Практыкаванні ў чаканні", "Роберт Крып").

З усяго прагледжанага можна зрабіць некалькі высноў. Не маючы сталай дзяржаўнай кінавытворчасці, акружаная кінадзяржавамі, краіна імкнецца захаваць панцдзе "швейцарская кінематаграфія". Не прэтэндуючы на стварэнне шэдэўраў сусветнага кіно, Швейцарская федэрацыя падтрымлівае тых, хто ажыццяўляе сціплыя кінапраекты, скіраваныя на паказ краіны ў розных праявах жыцця. Пастаноўшчыкі і акцёры — з розных краін, аднак бачны пэўны кірунак: ствараць фільмы за малыя грошы, без жорсткасці і грубага натуралізму, якія запаланілі экраны свету і якім не супрацьстаяць нават самыя прэстыжныя кінафестывалі, — пэўны ўрок і для нашай кінематаграфіі.

Хачу асобна падкрэсліць, што пры цяперашняй дыскрэдытацыі кіно як мастацтва (крывавымі баевікамі і сексуальнымі жарсцямі) кінатэатр "Перамога", яго дырэктар Р. Крол робіць вельмі карысную асветніцкую справу. Тут прадстаўлялі ўкраінскае і польскае кіно, цяпер вось — невядомае многім швейцарскае. Спадзяюся, што праявяць цікавасць да асветніцкай дзейнасці праз кіно і прадстаўніцтвы Балгарыі, Чэхіі і Славакіі, Венгрыі — краін адметнага кіно.

**Е. БОНДАРАВА, прафесар**

# ІЗНОЎ — СУСТРЭЧА З РАСТРАПОВІЧАМ

Як вы думаеце, што можа быць агульнага між сусветна вядомым дырыгентам, віяланчэлістам і піяністам Мсціславам Растраповічам, амерыканскім дырыгентам Каліфорніі Дэвідам Андрэ і ахвярамі Чарнобыля?

Але ж спачатку — крыху згадак. Амаль 30 гадоў назад я, студэнка, рэнтавала невялічкі пакойчык у кватэры асабістай сакратаркі выдатнага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча Зінаіды Аляксандраўны Гаямавай. Да яе прыходзілі многія знакамітыя і вельмі цікавыя людзі, з якімі я, "залёная" студэнтка, мела гонар і шчасце пазнаёміцца, а таксама шмат чаму навучыцца. У яе бывалі Яўген Еўтушэнка, Ірына Архіпава, сам Дзмітрый Шастаковіч, Ларыса Пампееўна Александроўская, Мсціслаў Растраповіч... Ці магла я нават падумаць тады, што сустрэну кагосьці з іх у Амерыцы???

Але я ўжо разумела, што Бог даў мне унікальную магчымасць дакрануцца да самай сутнасці высокага класа мастацтва і музыкі.

Я была сведкай першага выступлення маэстра Растраповіча як дырыгента "Яўгенія Анегіна" Чайкоўскага ў Вялікім тэатры...

Я была сведкай першага выканання 14-й сімфоніі Дзмітрыя Шастаковіча ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі...

Я была сведкай шчаслівых творчых сустрэч і ціхіх размоў на кухні за шклянкай гарбаты. Я апынулася сярод людзей, якія на ўсё маё жыццё пакінулі ў маёй душы незабыўныя ўспаміны і навучылі любіць сапраўдную музыку, людзей. І мастацтва... і творчасць...

І калі я сядзела ў куточку на сцэне Вялікага тэатра і слухала першае выступленне дырыгента Мсціслава Растраповіча, я бачыла ягоныя вочы, якія былі зусім не падобныя да тых, што бачыла, калі ён наведваў Зінаіду Аляксандраўну... Ягоны дух лунаў над аркестрам, распаўсюджваючы на гледачоў непаўторнае адчуванне. Гэта быў акт сапраўднай творчасці, якая нараджалася зараз, на вачах гледачоў, зачараваных ягоным гіпнозам любові да гэтай чароўнай музыкі...

Шмат кветак прынеслі тады да ягоных ног. А ён толькі сціпла і ціха паўтараў: "Дзякуй... дзякуй вялікі... Дзякуй усім вам"... Вось так нарадзілася зорка маэстра-дырыгента, вядомага ўжо віяланчэліста. Пазней ён толькі на 5-6 гадзін прылятаў з Токіо альбо з Лондана, каб прадырыгаваць "Яўгеніем Анегіным", і зноў адлятаў на свае канцэрты — як ён любіў тады гаварыць, "пилить свой ящик".

Я была сведкай, як Растраповіч заступіўся за Аляксандра Салжаніцына. І тады пачалося... Кацярына Фурцава, у той час міністр культуры Савецкага Саюза, прарагла: "Вы за гэта ніколі не будзеце ездзіць за мяжу. Я пакараю вас! Вы будзеце выконваць свае канцэрты нават не ў Маскве, а далёка-далёка на ўсходзе... на Далёкім Усходзе". А маэстра адказаў: "А я не думаю, што выкананне перад маімі гледачамі альбо слухачамі ёсць кара для мяне. Я буду іграць для іх з асалодай, дзе б яны ні былі — ці на Далёкім Усходзе, ці на вёсцы, ці ў горадзе". З часам усялякіх прыніжэнняў і "кіраўнічых наказаў" дадалося, і ўрэшце сям'я Растраповічаў вымушана была застацца за мяжой...

За 17 гадоў кіраўніцтва Нацыянальным Вашынгтонскім сімфанічным аркестрам маэстра Растраповіч узняў яго да сусветнага ўзроўню. Ён, як ніхто з жывых выканаўцаў, мае шмат розных ганаровых адзнак, сярод якіх Дзяржаўная прэмія СССР, Ганаровая ўзнагарода Кенэдзі-Цэнтра, Рыцарская Прэмія Брытанскай Імперыі, Афіцэрскі Хрост Ордэна Германіі, ордэн Пачэснага Легіёна Францыі і г. д... Маэстра Мсціслаў Растраповіч вядомы як піяніст-канцэртмайстар сваёй жонкі, сусветна славутай спявачкі Галіны Вішнеўскай.

...І вось маэстра Растраповіч ізноў у ЗША — запрошаны на святкаванне 100-годдзя Пітсбургскага сімфанічнага аркестра (штат Пенсільванія). А таксама, што было, на мой погляд, самае галоўнае, — маэстра ўзяў удзел у зборы сродкаў для беларуска-амерыканскай арганізацыі "Фонд дзіцячага здароўя". Гэты фонд быў усталяваны амерыканскім прафесарам Томасам Фолі, кіраўніком эндакрыналагічнага цэнтра пры Пітсбургскім універсітэце, а таксама доктарам медыцыны Уорэнам Групі і амерыканскім доктарам беларускага паходжання Марыяй Дэмковіч. А ганаровым прэзідэнтам гэтай арганізацыі з'яўляецца вядомая беларуская гімнастка Вольга Корбут, якую яшчэ любіць і памятае сярэдняе пакаленне амерыканцаў і якая жыве ў Амерыцы.

Цэлы канцэрт маэстра Растраповіч прысвяціў беларускім дзецям — ахвярам Чарнобыля...



Зала была поўная людзей (а білет жа каштаваў 100 долараў)... Вольга Корбут раздавала аўтографы, а доктар Марыя Дэмковіч прадавала беларускія кніжкі і сувеніры. Аўтарка гэтага артыкула пайшла падзякаваць маэстра Растраповічу за ўдзел у акцы дабрачыннасці і міласэрнасці. Праўду кажучы, і не думала, што ён пазнае мяне — столькі гадоў прайшло, столькі людзей змянілася, такія розныя падзеі адбыліся за гэтыя 30 гадоў!.. Але ж я вельмі моцна памылілася.

Пазнаў!..

І ўспомніла тады я свой маленькі пакойчык на Агарова, і цудоўнага чалавека Зінаіду Аляксандраўну Гаямаву, і дзівоснага і чароўнага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча, якіх ужо няма сярод жывых. Нібы і не мінула 30 гадоў...

Потым я пазнаёміла маэстра Растраповіча з другім маэстра, маім добрым сябрам Дэвідам Андрэ, які спецыяльна прыляцеў з Каліфорніі, каб узяць удзел у нашай праграме, прысвечанай беларускім ахвярам Чарнобыля. Дэвід Андрэ добра вядомы беларускай публіцы, бо неаднойчы бываў у Мінску, дырыгаваў духавым і сімфанічным аркестрамі. Гэты амерыканец таксама неабыякавы да нашай бяды. Будучы ў Беларусі, ён пабачыў, колькі людзей цяжка хварэе ад чарнобыльскіх наступстваў. І, прыехаўшы ў Каліфорнію, праз Ротары-клуб і вядомую міжнародную арганізацыю ў Санта-Барбары маэстра Дэвід Андрэ накіраваў у Беларусь шмат патрэбных і медычных прэпаратаў і лекаў.

І, як сказаў на тым канцэрце амерыканскі прафесар Томас Фолі, "дзесьці ў далёкай ад Амерыкі Беларусі нейкае хворае дзіця будзе ўдзячнае кожнаму, хто дапаможа яму акрыяць..."

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**

*г. Пітсбург, ЗША*

*На здымку: Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ, Мсціслаў РАСТРАПОВІЧ, Дэвід АНДРЭ.*

# ПРАЦЭС... АДЗІН НА ЎСІХ

## ЛЯЛЕЧНЫЯ СПЕКТАКЛІ НА МІЖНАРОДНЫМ ФЕСТЫВАЛІ "БЕЛАЯ ВЕЖА"

***Фестываль, які адбыўся ў Брэсце з 3 па 6 кастрычніка, аб'яднаў прадстаўнікоў лялечнага і драматычнага мастацтва. Наўрад ці гэты саюз стаўся выпадковым. Узаемапрасякнутасць эстэтыкі, спосабаў акцёрскага існавання, фармальных прыёмаў паміж драмай і анімацыйным тэатрам доўжыцца й доўжыцца. Працэс гэты мае ўстойлівасць, пашыраецца, вымагае даследаванняў і тэарэтычнага асэнсавання, але не лічыцца з ім ужо немагчыма.***

Адзінага конкурсу не было: лялечныя і драматычныя спектаклі ацэньваліся журы па асобных намінацыях. Тым больш цікава было адзначыць уплыў анімацыйнага і маскавага тэатра на найбольш яркія ды відовішчныя драматычныя спектаклі, якія сталіся фестывальнымі падзеямі, — "Ідыліі" В. Дуніна-Марцінкевіча Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы (рэжысёр М. Пінігін, мастак З. Марголін) і "Сна на Іванаву ноч" У. Шэкспіра Кіеўскага тэатра "На Падоле" (рэжысёр В. Малахаў, мастак С. Маслабойшчыкаў).

Яшчэ больш відавочнымі тэндэнцыі былі ў лялечнікаў: гэта давёў самы першы конкурсны спектакль — містэрыя-міф (так вызначылі жанр аўтары) "Дрэва багоў" У. Сідарука (рэжысёр В. Грыгалюнас, мастак В. Рачкоўскі) Брэсцкага тэатра лялек, дзе персанажы ўвасабляліся адначасова і лялькамі, і акцёрамі.

Між іншым адзначу, што вызначэнне "містэрыя" робіцца модным у тэатры. Магчыма, з часам мы здолеем наблізіцца да ягонага сэнсу, адзін з ягоных аспектаў якраз у тым, што містэрыі, як і міфы, маюць на ўвазе рэлігійнае светаадчуванне — як аўтараў сцэнічнай прапановы, так і гледачоў. А з ім, рэлігійным светаадчуваннем (прычыны абсалютна зразумелыя), у цяперашняга пакалення пэўныя неўразуменні.

Героі спектакля берасцейскіх лялечнікаў паходзяць са старажытнаславянскага пантэона, сярод іх — Сварог ды Сварожычы, Род, Каляда, Змей-Яшчур, стыхійныя Духі. Намаганне тэатра зірнуць на свет вачыма нашых далёкіх продкаў гэтаксама і смелае, і натуральнае, таму што без усведамлення вытокаў нацыянальнае культуры немагчыма яе далейшае паўнавартае развіццё. Але ў берасцейскім выпадку задума падалася мне куды цікавейшаю за вынік. Брак дастатковых мастацкіх ды навуковых распрацовак у галіне язычніцкай культуры падвялі мастака і рэжысёра да стэрэатыпных вырашэнняў. Міфа пакуль не атрымалася. Атрымалася казка. Аднак, ведаючы творчы патэнцыял Брэсцкага тэатра лялек, я падкрэсліваю — пакуль.

Другі берасцейскі спектакль на фестывалі, "Маленькія гісторыі кахання" (рэжысёр З. Нуянзін, мастак Н. Гур'ева) пастаўлены паводле вядомых казак Г. Х. Андэрсена "Пастушка і камінар", "Прынцэса і свінапас", "Стойкі алавяны жаўнерык". У музычных інтэрмедыях, якія абрамоўваюць спектакль, часта гучыць слова "каханне". Яно вынесена ў назву. Дый самая фабула спектакля вырашана як гульні закаханых, якія распавядаюць забаўныя гісторыі, часам смешныя, часам сумныя. У выкананні маладых акцёраў празрыстыя Андэрсенавы акварэлі раптам набылі плоць ды пэўнасць пачуццяў, на якія, зразумела, разлічаны не былі. Магчыма, я надта суб'ектыўная, але на працягу спектакля мяне не пакідала пачуццё нейкай няёмкасці за свінапаса, які вымагаў з прынцэсы ні больш, ні менш як сто пацалункаў, за алавянага жаўнерыка, жарстліва закаханага ў размаляваны кавалачак кардона (ён меркаваў, што перад ім — прыўкрасная паненка), за падступлівага троля з табакеркі... Гісторыі Андэрсена не пра каханне, а пра пяшчоту. Пры ўсёй блізкасці паміж каханнем ды пяшчотаю ёсць істотная розніца і намаганне памяняць эмацыйную дамінанту гэтым разам не здалося мне справядлівым ды апраўданым.

Гродзенскі тэатр лялек прывёз "Чароўную дудку" А. Вольскага (рэжысёр М. Андрэеў, мастак У. Дарашкевіч). Казка, якую можна лічыць класікай беларускай сцэны, увасоблена весела ды вынаходліва. Добры акцёрскі ансамбль, дынамічная рэжысура, удалая сцэнаграфія — усё разам дазволіла стварыць святочнае ды яркае відовішча.

Разам з нядаўнімі прэм'ерамі ў фестывальнай афішы стаялі і спектаклі-ветэраны, шаноўныя, знакамітыя, кшталту "Дзеда і жорава" В. Вольскага Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. Але пра іх ужо столькі напісана на ўсіх мовах свету, што мне, напэўна, і не патрапіць штокольвек дадаць.

Калінінградскі тэатр лялек падарыў берасцейскім гледачам сустрэчу з даўнімі французскімі знаёмцамі: сабакам Піфам, катом Геркулесам ды малым Дуду, паказаўшы спектакль "Прыгоды Піфа" А. Жукоўскай і М. Астрахана (рэжысёр В. Ваяводзін, мастак Т. Барысава).

Старажытны славянскі міф пра папарацькветку, што расцвітае на некалькі імгненняў апоўначы, — падстава для спектакля Валынскага тэатра лялек "На Івана Купала" (рэжысёр А. Паляк паводле аднайменнага апавядання М. Гогаля). Тэатр здолеў спалучыць паэтычнасць народнага падання, рамантызм гогалеўскай прозы з вонкавай характарнасцю лялькі, дыдактыку — з займальнасцю дзеяння. Спектакль прызнаны лепшым у лялечным конкурсе і яго стваральнікі павезлі ў Валынь габелен "Белая вежа-96", — твор гасцінных берасцейскіх кілімшчыкаў.

Завяршаў фестывальную праграму берлінскі тэатр "Кобальт", які прадставіў спектакль паводле оперы Д. Вердзі "Рыгалета" (сцэнічная адаптацыя Д. Мюлера). Работа нямецкіх лялечнікаў пакінула глыбокае ўражанне найвышэйшай прафесійнасцю ўсіх складнікаў спектакля — ад выкanання лялек да выбітнай тэхнікі лялькаваджэння. Пэўная суровасць сцэнаграфічнага вырашэння, прыглушаны каларыт, аскетычныя твары лялек кантраставалі з трагічнаю пяшчотаю музыкі, запісанай у выкананні аркестра тэатра "Ла Скала" (вакальныя партыі гучалі ў выкананні М. Калас і Ц. Гобі). Кантраст сцэнаграфіі і музыкі стварaў адчуванне адвечнага змагання душы з жорсткімі ўмовамі року, адвечнага канфлікту, у якім даўно ўжо быў прадвызначаны пераможца... Чынныя журы з задавальненнем паддаліся абаянню гэтага спектакля і дуэту выканаўцаў — акцёрам Сільке Тэхнаў і Дытмару Мюлеру былі аддадзены прызы за лепшыя акцёрскія работы сярод лялечнікаў.

Вядома, святы канчаюцца хутка. Праз колькі дзён пазыўныя фестывалю гучалі ўжо на цырымоніі закрыцця. Фестывальныя вынікі, аднак гэта не толькі прызы, памятныя ўзнагароды ды тэатральныя ўражанні. Для прафесійнікаў найкаштоўнымі сталіся назіранні і высновы з тэндэнцый, кірункаў, уплываў. Так бы мовіць, сам працэс. А ён... мае ўстойлівасць, пашыраецца, вымагае даследаванняў...

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК**

*Брэст—Мінск*

**Сёння ў нашай рэспубліцы існуе 11 творчых саюзаў, якія аб'ядноўваюць 7550 чалавек. Гэта адносна невялікая група творцаў, але менавіта яны ствараюць духоўны воблік грамадства, вызначаюць яго духоўныя арыенціры.**
**Вось чаму прэстыж і сацыяльнае становішча творчых работнікаў павінны быць у ліку прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі.**

**Вярхоўным Саветам аднагалосна прыняты ў першым чытанні праект Закона "Аб творчых саюзах". Камісія ВС па адукацыі, навуцы і культуры звярнулася да "ЛіМа" з просьбай надрукаваць вышэйзгаданы заканадаўчы дакумент — з тым, каб па асноўных артыкулах законапраекта маглі выказацца чытачы і літаратурна-мастацкія колы нашага грамадства.**

ПРАЕКТ

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
# АБ ТВОРЧЫХ САЮЗАХ

Прызнаючы асноватворную ролю культуры і мастацтва ў развіцці і самарэалізацыі асобы, гуманізацыі грамадства і зберажэнні нацыянальнай самабытнасці, сцвярджэнні годнасці і развіцці духоўнага патэнцыялу беларускага народа:

усведамляючы надзвычай важную ролю творчых саюзаў ва ўсталяванні духоўнага падмурку сацыяльна-эканамічнага і маральна-эстэтычнага прагрэсу грамадства;

канстатуючы прынцыповую адметнасць іх дзейнасці ад дзейнасці іншых грамадскіх аб'яднанняў у рэалізацыі агульнанацыянальных інтарэсаў і дзяржаўнай культурнай палітыкі, а таксама неабходнасць іх падтрымкі з боку дзяржавы ў новых сацыяльна-эканамічных умовах.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прымае Закон Рэспублікі Беларусь "Аб творчых саюзах".

Гэты Закон вызначае функцыянальныя напрамкі дзейнасці творчых саюзаў, асновы яе прававога, эканамічнага і арганізацыйнага рэгулявання, вызначае парадак узаемадзеяння, узаемныя правы і абавязкі творчай асобы, творчага саюза, дзяржавы, з'яўляецца неад'емнай часткай заканадаўства аб грамадскіх аб'яднаннях.

## ГЛАВА I.
## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 1. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб творчых саюзах**

Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб творчых саюзах грунтуецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і складаецца з гэтага Закона, Закона "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", Закона "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Задачы заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб творчых саюзах**

Задачамі заканадаўства аб творчых саюзах з'яўляюцца:

рэгуляванне адносін творчай асобы, творчых саюзаў і дзяржавы ў сферы ўзаемных інтарэсаў;

вызначэнне прававых механізмаў і гарантый дзяржаўнай падтрымкі творчых саюзаў, іх функцыянавання і развіцця;

стварэнне спрыяльных прававых, сацыяльна-эканамічных і арганізацыйных умоў для забеспячэння дзейнасці творчых саюзаў.

**Артыкул 3. Тэрміны і паняцці, якія выкарыстоўваюцца ў гэтым Законе**

"Творчы саюз" — добраахвотнае грамадскае аб'яднанне асоб, якія ўнеслі ўклад у развіццё культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь сваімі дасягненнямі ў галіне мастацкай, навуковай, тэхнічнай або педагагічнай творчасці, і створанае на аснове агульнасці іх творчых інтарэсаў у пэўным відзе творчай дзейнасці.

"Творчая дзейнасць" — гэта інтэлектуальная дзейнасць, якая завяршаецца з'яўленнем новага, не існаваўшага раней самастойнага выніку ў галіне мастацтва, літаратуры, навукі, тэхнікі.

"Прафесійная творчая дзейнасць" — дзейнасць, якая з'яўляецца асноўнай працоўнай дзейнасцю творчай асобы, галоўнай крыніцай яе даходаў.

"Аматарская творчая дзейнасць" — непрафесійная творчая дзейнасць, якая не з'яўляецца асноўнай працоўнай дзейнасцю і ажыццяўляецца ў непрацоўны час.

"Вынікі творчай дзейнасці" — увасоблены ў матэрыяльнай форме прадукт, які характарызуецца навізной або арыгінальнасцю і называецца ў залежнасці ад яго характару творам мастацтва, літаратуры, навуковым ці навукова-тэхнічным вынікам, дасягненнем, ведамі, вынаходствам, прамысловым узорам або таварным знакам.

"Творчая асоба" — асоба, дзейнасць якой звязана з вынікам творчай дзейнасці і завяршаецца:

публічным прадстаўленнем сваіх твораў шляхам правядзення выставак, апублікавання, чытання, кіна-, тэле- або відэапаказу, або іншым шляхам, які адпавядае творчай дзейнасці;

прысуджэннем асобе ганаровых ступеняў, званняў, узнагарод, прафесійных прызоў або прэмій, а таксама прызнаннем яго грамадскасцю ў форме публічна распаўсюджанай крытычнай ацэнкі.

"Дзяржаўная падтрымка творчых саюзаў" — дзейнасць дзяржавы, якая накіравана на стварэнне прававых, эканамічных і арганізацыйных умоў і гарантый для самарэалізацыі асобы, якая займаецца творчай дзейнасцю, а таксама на развіццё творчых саюзаў, найбольш поўнай рэалізацыі іх патэнцыяльных магчымасцей у інтарэсах усяго грамадства.

**Артыкул 4. Прызнанне дзяржаваю значнасці творчай дзейнасці ў развіцці беларускага грамадства**

Рэспубліка Беларусь:

стымулюе дзейнасць, накіраваную на ўзбагачэнне духоўнага жыцця беларускага народа, зберажэнне, захаванне і развіццё культурных і мастацкіх традыцый;

забяспечвае ўмовы працы і занятасці грамадзянам Рэспублікі Беларусь, замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства такім чынам, каб яны мелі магчымасць у пажаданай для іх форме прысвяціць сябе творчай дзейнасці;

спрыяе росту попыту з боку грамадства на прадукцыю творчасці;

удасканальвае сістэму сацыяльнага забеспячэння і падаткаабкладання творчых саюзаў і іх членаў з улікам спецыфікі творчай дзейнасці;

спрыяе матэрыяльнаму забеспячэнню, сацыяльнай абароне, свабодзе і незалежнасці асоб, якія прысвяцілі сваю дзейнасць беларускай культуры;

садзейнічае асобам, якія займаюцца прафесійнай і аматарскай творчай дзейнасцю, у пашырэнні міжнародных кантактаў.

**Артыкул 5. Правы грамадзян на аб'яднанне ў творчыя саюзы і ўступленне ў дзеючыя творчыя саюзы**

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права па сваёй ініцыятыве ствараць творчыя саюзы і ўступаць у дзеючыя творчыя саюзы ў адпаведнасці з заканадаўствам і іх статутамі.

Замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства могуць уступаць у дзеючыя творчыя саюзы, калі гэта прадугледжана статутамі творчых саюзаў.

## ГЛАВА II.
## ТВОРЧЫЯ САЮЗЫ, МЭТЫ, ПРЫНЦЫПЫ СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ

**Артыкул 6. Мэты стварэння творчых саюзаў**

Творчыя саюзы ствараюцца і дзейнічаюць з мэтай:

рэалізацыі і абароны правоў і свабод асоб, якія займаюцца прафесійнай і аматарскай творчай дзейнасцю;

рэалізацыі самабытнасці, адоранасці і здольнасцей творчай асобы;

павышэння творчага патэнцыялу і актыўнасці ў галіне мастацкай, навуковай і тэхнічнай творчасці;

садзейнічання ў стварэнні, зберажэнні і распаўсюджванні твораў мастацтва, навукі, культуры;

заахвочвання наватарства, высокага прафесійнага майстэрства, ініцыятывы і культуры духоўных адносін;

сумеснай дзейнасці на аснове агульнасці прафесійных інтарэсаў прадстаўнікоў розных груп творчай інтэлігенцыі;

усебаковай маральнай і матэрыяльнай падтрымкі сваіх членаў.

**Артыкул 7. Разнастайнасць творчых саюзаў у Рэспубліцы Беларусь**

У Рэспубліцы Беларусь у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і відамі творчай дзейнасці могуць стварацца саюзы архітэктараў, дызайнераў, кампазітараў, кінематаграфістаў, мастакоў, тэатральных дзеячаў, журналістаў, пісьменнікаў, народных майстроў, музычных дзеячаў, фотамастакоў, фалькларыстаў і іншыя.

**Артыкул 8. Міжнародныя, рэспубліканскія творчыя саюзы і іх аб'яднанні**

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ствараюцца і дзейнічаюць міжнародныя, рэспубліканскія творчыя саюзы і іх аб'яднанні.

Міжнародным прызнаецца творчы саюз, дзейнасць якога распаўсюджваецца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь (адной або некалькіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак) і тэрыторыю адной або некалькіх замежных дзяржаў і які мае там арганізацыйныя структуры.

Рэспубліканскім прызнаецца творчы саюз, дзейнасць якога распаўсюджваецца на тэрыторыю ўсёй Рэспублікі Беларусь і які мае заснавальнікаў у большасці яе абласцей.

**Артыкул 9. Арганізацыйныя прынцыпы дзейнасці творчых саюзаў**

Творчыя саюзы ствараюцца і дзейнічаюць на прынцыпах добраахвотнасці, незалежнасці, самакіравання, законнасці і галоснасці, а таксама раўнапраўнасці, узаемапавагі, узаемадапамогі, высокай патрабавальнасці і адказнасці іх сяброў.

Творчыя саюзы, выконваючы функцыі, якія прадугледжаны іх статутамі, дзейнічаюць у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі Рэспублікі Беларусь, нормамі міжнароднага права ў галіне культуры і мастацтва.

Творчыя саюзы могуць ствараць у сваёй структуры аддзяленні, секцыі, асацыяцыі, гільдыі і іншыя аб'яднанні па профілю адпаведнага віду творчасці, а таксама маладзёжныя секцыі і дзіцячыя творчыя студыі.

На супрацоўнікаў апарату творчых саюзаў распаўсюджваецца заканадаўства аб працы, сацыяльным забеспячэнні і сацыяльным страхаванні работнікаў.

Творчыя саюзы незалежныя ў сваёй статутнай дзейнасці ад палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў.

**Артыкул 10. Прынцыпы ўзаемаадносін дзяржавы з творчымі саюзамі**

Дзяржава забяспечвае захаванне і абарону правоў і законных інтарэсаў творчых саюзаў, гарантуе аднолькавыя ўмовы для выканання імі статутных мэт і задач.

Дзяржава ва ўстаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку аказвае творчым саюзам дапамогу ў выглядзе:

заахвочвання і садзейнічання ў рэалізацыі іх культурных ініцыятыў, праграм і праектаў, творчых задум, эксперыментальных распрацовак;

дзяржаўных датацый, субсідый, ганаровых і заахвочвальных прэмій, стыпендый і іншых форм заахвочвання;

мэтавых і конкурсных сацыяльна-творчых заказаў на стварэнне сацыяльна значных твораў культуры і мастацтва, іх закупкі і практычнай рэалізацыі;

стымулявання ў галіне фундатарства, мецэнацтва, дабрачыннасці прадпрымальнікаў і камерцыйных структур;

ажыццяўлення палітыкі льготнага падаткаабкладання і льготнага рэжыму выкарыстання валютных сродкаў;

поўнага або частковага пакрыцця выдаткаў на правядзенне буйных культурных акцый (фестываляў, творчых выставак, конкурсаў, праглядаў, канферэнцый і інш.) у рэспубліцы і за яе межамі;

прадастаўлення правоў карыстання зямлёй, памяшканнямі, будынкамі, абсталяваннем, матэрыяламі, паслугамі, сродкамі сувязі, транспартам, энерганосьбітамі на льготных умовах;

спрыяння ўступленню творчых саюзаў у адпаведныя міжнародныя творчыя арганізацыі. Творчыя саюзы сваёй дзейнасцю і вынікамі інтэлектуальнай творчасці спрыяюць рэалізацыі дзяржаўнай культурнай палітыкі ў накірунках:

уздыму нацыянальнай самасвядомасці народа, духоўнага, маральнага, эстэтычнага ўзроўню асобы;

культурнага прагрэсу і міжнароднага прэстыжу дзяржавы;

далучэння моладзі і шырокіх мас народа да сучасных дасягненняў культуры і мастацтва;

усебаковага раскрыцця таленту творчай асобы;

захавання самабытнай нацыянальнай культуры.

Дзяржаўныя органы і службовыя асобы не ўмешваюцца ў статутную дзейнасць творчых саюзаў і не нясуць адказнасці па іх абавязацельствах, акрамя выпадкаў, якія прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА III.
## ПАРАДАК СТВАРЭННЯ ТВОРЧЫХ САЮЗАЎ І ПРЫПЫНЕННЯ ІХ ДЗЕЙНАСЦІ

**Артыкул 11. Парадак стварэння творчых саюзаў і прыпынення іх дзейнасці**

Парадак стварэння творчых саюзаў і прыпынення іх дзейнасці ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях".

**Артыкул 12. Членства ў творчым саюзе**

Членамі творчага саюза могуць быць асобы якія дзейнічаюць у пэўнай галіне мастацкай творчасці як на прафесійнай, так і на аматарскай аснове, ці прадстаўляюць тую або іншую творчую прафесію (у адпаведнасці з профілем творчага саюза).

Творчыя саюзы маюць фіксаванае членства.

**Артыкул 13. Правы і абавязкі творчых саюзаў і іх членаў**

Правы і абавязкі творчых саюзаў і іх членаў вызначаюцца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і статутамі творчых саюзаў.

**Артыкул 14. Асаблівасці прававога становішча творчых саюзаў**

Асаблівасці прававога становішча творчых саюзаў у параўнанні з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі ў Рэспубліцы Беларусь вызначаюцца гэтым Законам і прынятымі ў адпаведнасці з ім іншымі нарматыўнымі актамі.

Грамадскія адносіны, якія ўзнікаюць у сувязі з рэалізацыяй права асоб на аб'яднанне ў творчыя саюзы і дзейнасцю творчых саюзаў і не ўрэгуляваныя гэтым Законам, рэгулююцца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях".

## ГЛАВА IV.
## МАТЭРЫЯЛЬНА-ФІНАНСАВАЯ АСНОВА ДЗЕЙНАСЦІ ТВОРЧЫХ САЮЗАЎ

**Артыкул 15. Уласнасць творчых саюзаў**

Творчыя саюзы могуць мець ва ўласнасці маёмасць, якая неабходна ім для матэрыяльнага забеспячэння дзейнасці, прадугледжанай іх статутам, за выключэннем аб'ектаў, якія ў адпаведнасці з законам могуць знаходзіцца толькі ва ўласнасці дзяржавы.

Маёмасць творчых саюзаў, створаная за кошт уznосаў заснавальнікаў, уступных і членскіх узносаў, адлічэнняў ад прыбытку прадпрыемстваў, якія належаць ім на праве ўласнасці, і суб'ектаў гаспадарання, удзельнікамі якіх яны

*(Працяг на стар. 14)*

***Выйшла ў свет праца А. Майхровіча, вядомага даследчыка гісторыі філасофскай думкі і культуры Беларусі. Праца невялікая, але яна змяшчае ў сабе шэраг асноватворных, лёсавызначальных ідэй сучаснага сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі.***

***Нягледзячы на тое, што закранутыя ў кнізе пытанні абмяркоўваліся ў друку, аўтар прапануе сваё бачанне, якое абапіраецца на грунтоўнае веданне айчыннай і сусветнай гісторыка-культурнай традыцыі, рэальную ацэнку сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сучаснасці. Не ўсімі аўтарскія думкі будуць прыняты безагаворачна, што натуральна. Але ж, упэўнены, што пытанні і праблемы, якія вырашае і закранае А. Майхровіч, не аставяць абыякавымі ніводнага сумленнага грамадзяніна Беларусі.***

# ШЛЯХ НАРОДА ДА САПРАЎДНАГА БЫЦЦЯ

Адзначу перш за ўсё, што гісторыя беларускага народа прадстаўлена А. Майхровічам як адвечны і цяжкі шлях да ісцінага, сапраўднага быцця (дарэчы, гэта асноватворная канцэптуальная ўстаноўка, на якой грунтуюцца яго галоўныя навуковыя працы "Беларускія рэвалюцыйныя дэмакраты", "Янка Купала і Якуб Колас", "Пошук ісцінага быцця і чалавека" і інш.). На гэтым цярністым шляху беларускі народ на працягу многіх стагоддзяў, нягледзячы на ўсе перашкоды, сваім розумам, воляй, працай, потам, крывёй, мужнасцю, вытрыманасцю, цярплівасцю вырашаў тыя праблемы, якія ён лічыў і лічыць галоўнымі — гэта праблема дзяржаўнага суверэнітэту; праблема нацыянальнага самазахавання, культуры, роднай мовы; праблема эфектыўнай эканомікі; праблема аптымальнага грамадска-дзяржаўнага ладу; праблема цывілізаваных адносін з суседзямі і інш.

Адна з галоўных гістарычных праблем, якую беларускі народ вырашае ўжо не адно стагоддзе — праблема палітычнай незалежнасці, або дзяржаўнага суверэнітэту. Дзяржаўны суверэнітэт, на думку аўтара, гэта вышэйшая нацыянальна-грамадзянская каштоўнасць, увасабленне годнасці і недатыкальнасці народа, перадумовы яго руху да свабоднага і паўнавартаснага жыцця. Дзяржаўнасць, якую будуе беларускі народ, не абстрактнае паняцце. Як справядліва мяркуе А. Майхровіч, яна павінна мець два вымярэнні — па-першае, нацыянальнае, па-другое, дэмакратычнае — што вынікае з гістарычнага лёсу, менталітэту, палітычных традыцый, побыту, нораваў беларускага народа як супольнасці. Прычым, адно знітавана з другім, паколькі ідэя нацыянальнай дзяржаўнасці, якая грунтуецца на прынцыпе роўнасці ўсіх народаў, што жывуць у Беларусі, можа быць здзейснена толькі ва ўмовах дэмакратыі.

Аўтар падкрэслівае, што ўсе спробы ігнараваць нацыянальны фактар у пабудове сучаснай беларускай дзяржавы, падмяняць або зацямняць яго агульнагуманістычнай, прагматычнай ці якой іншай ідэяй, вядзе да размывання і абясцэньвання сутнасці дзяржаўнага суверэнітэту, трактоўкі Беларусі як аморфнага эканамічнага і нацыянальнага рэгіёна.

Як вядома, ідэя беларускай дзяржаўнасці бярэ пачатак са старажытных часоў. На працягу стагоддзяў яна прымала розныя, спецыфічныя канкрэтна-гістарычныя формы, але сутнасць яе ў асноўным заставалася адной і той жа. У рэшце рэшт, гістарычны вопыт паказаў, што аптымальнае развіццё народа і краіны магчыма толькі ва ўмовах дзяржаўнай самастойнасці, незалежнасці, калі зыходным, адпраўным пунктам усякай — эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай, дыпламатычнай, культурнай, міждзяржаўнай, рэлігійна-царкоўнай, інтэграцыйнай і іншай — дзейнасці будуць у першую чаргу ўласныя нацыянальныя інтарэсы.

Гэта разумелі і нашы папярэднікі, прычым, не толькі беларускія, але і расійскія грамадскія, культурныя дзеячы, вучоныя. Яшчэ ў пачатку XX ст. выдатны рускі гісторык Мацей Любаўскі, рэктар Маскоўскага універсітэта (1911—1917), аўтар прац "Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно", "Основные моменты истории Белоруссии" і інш. прыходзіць да высновы, што галоўнай перашкодай на шляху натуральнага, паўнавартаснага гістарычнага развіцця беларускага народа з'яўлялася адсутнасць уласнай, нацыянальнай дзяржаўнасці. У працэсе станаўлення інтэграванай беларуска-украінска-літоўскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жаймойцкага — М. Любаўскі бачыў як станоўчыя, так і адмоўныя моманты. У прыватнасці, ён падкрэслівае, што шмат жыццёвых сіл беларускага народа ў XIV—XVI стст. было затрачана на будаўніцтва інтэграванай, міжнацыянальнай дзяржаўнасці, грамадскасці, культуры. Адным з адмоўнейшых і трагічных вынікаў такога становішча як у эпоху Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, так і ў пазнейшыя часы, вучоны лічыў масавую эміграцыю беларусаў. Прычым, эміграцыя, ва ўяўленні Любаўскага, гэта не толькі ад'езд за мяжу, але і пераход у іншую нацыянальную супольнасць і культуру. Менавіта такая эміграцыя, на яго думку, на працягу многіх стагоддзяў знясільвала нацыю, аднімала ў яе лепшых, прадпрымальных, творча актыўных прадстаўнікоў. Нагадаем, што ў іншых абставінах Адам Міцкевіч, магчыма, мог бы стаць вялікім беларускім паэтам, Ігнат Дамейка — прафесарам не Чылійскага, а Беларускага універсітэта (калі б такі існаваў у сярэдзіне XIX ст.), а Мікалай Судзілоўскі — не прэзідэнтам Гавайскай рэспублікі, а незалежнай беларускай дзяржавы, калі б такая існавала ў яго часы. "История Белоруссии, — піша Любаўскі, — при всём том являет нам воистино, что никакое совершенствование жизни, никакой прогресс не возможны для страны и племени, если все живые и творческие силы его будут уходить на сторону, стремиться туда, где живется веселее и радостнее, чем в тихой, серой и заплаканной родине".

На думку А. Майхровіча, нацыянальная дзяржаўнасць — перадумова дэмакратычных пераўтварэнняў у сучаснай Беларусі. Менавіта яна здольная гарманічна спалучыць галоўнейшыя агульначалавечыя каштоўнасці, грамадзянскія свабоды, неад'емныя эканамічныя, палітычныя і духоўна-культурныя правы чалавека з фундаментальнымі каштоўнасцямі нацыянальнага жыцця.

Адной з асноўных умоў пераходу ад таталітарнага ладу да дэмакратыі з'яўляецца наяўнасць эканамічнай свабоды, стварэнне новай рынкавай эканомікі. Але ж гэта, як падкрэслівае аўтар, вельмі няпросты, складаны працэс. Ва ўмовах, калі размеркавальна-бюракратычная сістэма аганізуе, а новая сістэма рынкавых адносін яшчэ не ўсталявалася, пачынаецца панаванне "неабмежаванай дэмакратыі", утвараецца пэўны хаос, на фоне якога разгортваецца барацьба розных — прамысловых, галіновых, у тым ліку і замежных, і іншых — груповак за прывілеі і даходы. І вынікі гэтай барацьбы часта не на карысць дзяржаўным і нацыянальным інтарэсам Беларусі. Аўтар спадзяецца, што ў выпрацоўцы аптымальнай эканамічнай палітыкі істотную ролю адыграе грамадская супольнасць, думка, якія павінны схіліць уладныя структуры да сапраўдных, карэнных эканамічных рэформаў у інтарэсах беларускага народа, дэмакратычнай дзяржаўнасці.

У сваёй рабоце А. Майхровіч ставіць вельмі актуальную праблему сучаснага грамадскага развіцця — праблему духоўнай кансалідацыі, ідэалагічнага згуртавання беларускай нацыі, без чаго немагчыма яе Адраджэнне. На якіх ідэях і прынцыпах павінна адбыцца гэтая кансалідацыя, гэтае згуртаванне? На думку А. Майхровіча, цэнтральным, вызначальным прынцыпам, які змог бы аб'яднаць усе пласты беларускага грамадства, з'яўляецца прынцып духоўнай суверэннасці і нацыянальнай індывідуальнасці, або, як яго яшчэ інакш называюць — беларуская ідэя. Гэты прынцып змог бы стаць асноватворным у ідэалогіі беларускай дзяржавы. Толькі кіруючыся гэтым прынцыпам, можна самастойна і правільна, у інтарэсах усяго народа, вызначыць свой далейшы лёс, пераадолець былыя адносіны падначаленасці і залежнасці, пазбавіцца "комплексу непаўнавартасці", сцвердзіць абсалютную прыярытэтнасць у палітыцы, эканоміцы і культуры ўласных нацыянальных інтарэсаў, матэрыяльных і духоўных патрэб свайго народа.

Карацей кажучы, гаворка ідзе пра фарміраванне акрэсленай і жыццяздольнай грамадска-дзяржаўнай свядомасці. З аднаго боку, адзначае А. Майхровіч, яна змяшчае ў сабе ўсведамленне прыналежнасці Беларусі, беларускага народа да агульнаеўрапейскай цывілізацыі, у тым ліку, і да агульнаславянскай супольнасці; з другога — разуменне ўласнага гістарычнага шляху, які не атаясамліваецца з лёсам і інтарэсамі іншых народаў, змяшчае ў сабе ўсведамленне сваёй нацыянальнай, духоўна-культурнай індывідуальнасці, сваіх пачаткаў. Такім чынам, згодна аўтарскай канцэпцыі, беларуская грамадска-нацыянальная свядомасць складаецца з дзвюх кампанентаў: гуманістычна-дэмакратычнага і нацыянальна-патрыятычнага. Што тычыцца гуманістычных і дэмакратычных каштоўнасцей, то галоўнымі сярод іх з'яўляюцца ўсведамленне чалавека як вышэйшай мэты ўсіх намаганняў і клопатаў грамадства і дзяржавы; свабоды — эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай, прававой, духоўна-культурнай, творчай — як важнейшай вартасці грамадскага і індывідуальнага жыцця і інш.

Разам з тым, падкрэслівае А. Майхровіч, новая, кансалідацыйная дзяржаўная ідэалогія немагчыма па-за фундаментальнымі нацыянальнымі каштоўнасцямі, якія таксама, як і агульначалавечыя, дэмакратычныя з'яўляюцца перадумовай паўнавартаснага, сапраўднага, ісцінага быцця і галоўнейшымі з якіх з'яўляюцца каштоўнасці радзімы — вялікай і малой ("роднага кута"), народа, сям'і, дзяржаўнага суверэнітэту, культуры, гісторыі, мовы, нацыянальнай годнасці і інш.

Ідэалогія дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы, адзначае аўтар, прынцыпова, якасна адрозніваецца ад ідэалогіі таталітарнага тыпу. Яна не проста ставіць каштоўнасці чалавека, асобы упоравень з каштоўнасцямі дзяржавы, а падпарадкоўвае апошнія першым, вымярае якасць і каштоўнасць дзяржаўна-грамадскіх інстытутаў мерай іх спрыяння чалавечай асобе, яе свабодзе, годнасці, дабрабыту.

У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі ідэя ўсталявання універсальнай маралі, якая, на думку аўтара, павінна таксама адыграць істотную рэгулюючую і кансалідуючую ролю ў грамадстве побач з ідэяй нацыянальна-дэмакратычнай, прававой дзяржавы, пакласці канец існаванню групавой — саслоўнай, карпаратыўнай, класавай, партыйнай, наменклатурнай, канфесійнай — маралі, маралі з двайным альбо трайным вымярэннем, з падзелам грамадзян на сваіх і чужых, з абавязковым патрабаваннем палітычна або ідэалагічна "вызначыцца" і г.д.

Асноўным прынцыпам такой маралі, на думку А. Майхровіча, з'яўляўся б вядомы гуманістычны імператыў Імануіла Канта: чалавек ёсць мэта, а не сродак. Характарыстыкамі такой маралі былі б якасці, замацаваныя ў агульначалавечай культуры — хрысціянстве, філасофскай этыцы, маральнай традыцыі беларусаў. На першы погляд, ідэя стварэння універсальнай маралі, якая магла б адносна аб'яднаць і прымірыць паміж сабой усе існуючыя сацыяльныя пласты і накірункі беларускага грамадства выглядае утапічна. Але, па-першае, такая спроба часткова ўдалася ў сусветных рэлігіях — хрысціянстве, мусульманстве, будызме. Па-другое, спроба сінтэзу хрысціянскай і філасофскай этыкі зрабіла істотны ўплыў на маральную свядомасць эпохі Адраджэння і Асветніцтва і ў рэшце рэшт нарадзіла такі вечны феномен, як этыка Канта. Па-трэцяе, у нацыянальнай беларускай культуры ёсць перадумовы для стварэння універсальнай этыкі. Гэтыя перадумовы маюць глыбокія культурна-гістарычныя карані, якія змяшчаюцца ў спадчыне Кірылы Тураўскага, Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Льва Сапегі, Беняша Буднага, Сімяона Полацкага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага і інш.

У заключэнні адзначу, што работа А. Майхровіча "Які ён, шлях Беларусі да дэмакратычнай дзяржавы", выйшла ў свет у выдавецтве "Права і эканоміка", што пры Інстытуце філасофіі і права АН Беларусі. На рахунку гэтага выдавецтва ўжо шмат якасных і вельмі карысных навуковых выданняў, а ўзначальвае яго Віктар Гаўрыленка. Праца адрасуецца ўсім, каго непакоіць гістарычны лёс народа і дзяржавы Беларусі, галоўным чынам студэнтам, выкладчыкам, навуковым супрацоўнікам, моладзі. Думаю, што вельмі карысная яна будзе і беларускім палітыкам.

**Сямён ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

*Майхровіч А. Які ён, шлях Беларусі да дэмакратычнай дзяржавы? Мн., "Права і эканоміка", серыя "Грамадска-палітычныя навукі", 1996.*

---

Міхась СКОБЛА

## НЕБА І ЗЯМЛЯ

*Я нараджэнка касмічнага года...*
*На лёс мой плугі і ракеты ляглі.*
Н. Аксёнчык

**Куды мне падзецца,**
**о божухна мілы?**
**Нібы лабірынт, мяне блытае лёс:**
**То плугам на полі кірую штосілы,**
**То сяду ў ракету і — пырх да нябёс.**
**Няма мне адхлання,**
**няма мне спачыну,**
**Такая вакол мітусня, мітульга.**
**А хочацца верыць —**
**усё чын па чыну,**
**І стаць між паэтаў**
**мне прыйдзе чарга.**
**Мо мне паспрыяе ласкавае неба,**
**Бо ў космасе ўсё ж**
**я амаль што свая:**
**Чаго там і колькі**
**ў паэтах тых трэба,**
**І лепей прыстаць да якога рая?**
**Ідзе галава ад няпэўнасці кругам,**
**Хоць творчых пакуль**
**што не зведала мук.**
**А мо прамаўчаць,**
**што хадзіла за плугам,**
**І выйсці, як ёсць,**
**кандыдатам навук?**
**А што ні паэт, то і сіла, і веліч.**
**І ў вершы ў кожным ці одум,**
**ці страсць.**
**І што я рабіцьму, калі мне Гілевіч**
**На строме, як бацька,**
**руку не падасць?**
**Вось так і жыву, вось таму і сумую.**
**Калі ўжо і небу й зямлі дагаджу?**
**Здаецца,**
**што космас адважна штурмую,**
**Ды не —**
**ўсё за плугам абрыдлым хаджу.**

## У ВЕЧНАЕ СПАКУСЕ

*Кахала я Данілу са славян.*
*Без памяці, няўпрытайкі,*
*на людзях...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Маіх радкоў няма на Беларусі.*
В. Аколава

**Як палыхала страсць —**
**гайдаўся свет,**
**Аж цела тлела і амаль дыміла,**
**Калі, як Чалубей і Перасвет,**
**Сышліся — я й каханак мой Даніла!**
**Без памяці я, грэшная, была,**
**Хоць перад гэтым ані**
**з кім не млела.**
**Я на алтар кахання аддала**
**Усё, што назапасіла і мела.**

**Мой любы паказаў за тры начы**
**Славянскі спрыт і вытрымку і сілу.**
**Пасталі чытачы, як гледачы —**
**Каб як жа не сурочылі Данілу!**

**Хацелася сказаць — ідзіце прэч.**
**Ці ж мне цяпер паэзіяй займацца?**
**Ёсць у жыцці прыемнейшая рэч —**
**З Данілам каб няўпрытайкі кахацца.**

**Мае радкі па ўсёй па Беларусі**
**Чытаць непаўналетнім —**
**Божа збаў.**
**Жыву цяпер я ў вечнае спакусе —**
**Куды гэта Даніла мой прапаў?**

---





ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | (1932-35) |
| *І.Гурскі* | (1935-41) |
| *А.Куляшоў* | (1945-46) |
| *М.Горцаў* | (1947-49) |
| *П.Кавалёў* | (1949-50) |
| *В.Вітка* | (1951-57) |
| *М.Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я.Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н.Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л.Прокша* | (1969-72) |
| *Х.Жычка* | (1972-76) |
| *А.Асіпенка* | (1976-80) |
| *А.Жук* | (1980-86) |
| *А.Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — ***першы намеснік галоўнага рэдактара,*** **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4815
Нумар падпісаны 28.11.1996 г.
Заказ 7508/Г

П #23456789101112
М 123456789 1011 12